— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ
ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

26 ЛІПЕНЯ 1996 г. | № 30 (3854) | Кошт 2 500 руб.

*З Днём Незалежнасці, Беларусь!*




## Генадзь КАРПЕНКА:

# “ГАЛОЎНАЯ ІДЭЯ — БУДАВАННЕ СВАЙГО ДОМУ, СВАЁЙ ДЗЯРЖАВЫ”

***Шэсць гадоў назад была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі. Дзень 27 ліпеня павінен быў бы стаць самым светлым днём (поруч з 25 сакавіка, прынамсі) у жыцці нашага народа. Дзень незалежнасці — гэта свята волі, свабоды, суверэнітэту, свята вызвалення ад шматгадовай імперскай залежнасці, паднявольнага існавання. Васіль Быкаў аднойчы сказаў, што як жыццё — галоўная каштоўнасць, дадзеная Богам чалавеку, так незалежнасць — галоўная каштоўнасць нацыі. Як мы разумеем і беражом гэтую каштоўнасць? Ці стала яна галоўнай патрэбаю грамадства? Ці хочам мы, беларусы, “людзьмі звацца”, і што гэтаму перашкаджае? Пра гэта — наша гутарка з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзем КАРПЕНКАМ.***

**— Генадзь Дзмітрыевіч, наступны нумар “ЛіМа” выйдзе 26 ліпеня, напярэдадні Дня незалежнасці Беларусі. Вы былі членам парламента, які прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці, а пасля надаў ёй статус Закона. З якімі пачуццямі згадваеце вы той час і з якім настроем сустракаеце сёлетні Дзень незалежнасці нашай дзяржавы?**

— Як кажуць, сам Бог, альбо лёс вырашыў тады за нас пытанне, быць нашай дзяржаве ці не быць. Пагадненне, падпісанае ў Белавежскай пушчы, было выйсцем з таго палітыка-эканамічнага становішча, у якім апынуўся былы СССР. Было відавочна, што рэспублікі, якія ўваходзілі ў СССР, павінны былі вырвацца з імперскіх абдымкаў і пачаць будаваць сваё жыццё па сваіх уласных мерках і разуменнях. Такая мажлівасць, такая доля выпала і Беларусі, поруч з іншымі братнімі, як тады гаварылі, народамі — і нашаму народу. Пачаць будаваць новую Беларусь сваімі рукамі, сваімі сіламі — гэта было прыемнае, радаснае пачуццё. Аднак жа, памятаю, прыходзіў і турботны одум. Дэкларацыя, палітычны тэзіс, які сцвярджае, што абвешчана, узнікла на карце свету незалежная дзяржава Беларусь — гэта толькі падмурак яе, першы камень на будоўлі нашага нацыянальнага дому. Думалася аб эканамічным грунце нашай незалежнасці. Мы лічылі нашы плюсы і мінусы ў гэтым плане, і самы вялікі мінус — гэта, натуральна, адсутнасць энерганосьбітаў. Мы добра разумелі, што з такой, завязанай на ўвесь былы Саюз, вытворчасцю нам далёка не пайсці, што трэба неадкладна пераходзіць да новых тэхналогій, але разумелі і тое, што гэта будзе вельмі і вельмі няпроста. Немалыя спадзяванні звязвалі мы з геаграфічным — як цяпер модна гаварыць, геапалітычным становішчам Беларусі, плюсы якога наш урад павінен выкарыстоўваць як добры шлях для пераўтварэння эканомікі...

У мяне асабіста, не хачу таіцца, пагадненне ў Віскулях выклікала і іншыя пачуцці. Зрэшты, не само пагадненне, а тое, як яно падпісвалася. Я быў тады членам прэзідыума Вярхоўнага Савета. Чакалі прыезду Ельцына, памятаю. Была запланавана ягоная сустрэча з членамі прэзідыума, але — яе не адбылося. Селі на самалёт і паляцелі ў пушчу. А раніцай даведаліся, што падпісана Віскулёўскае пагадненне. Пэўна, адсюль — ад гэтае нечаканасці, раптоўнасці, мо нават выпадковасці — нейкае ўнутранае непрыняцце яго. У цывілізаваных краінах такія пагадненні павінны падпісвацца таксама цывілізавана. Прыклад гэтага — “развод” Чэхіі і Славакіі. Мне думаецца, што калі б мы наш, савецкі “развод” падрыхтавалі больш цывілізавана, не было б вакол яго і ніякіх спекуляцый. Вядома, мне могуць запярэчыць, што такія справы робяцца адразу, або не робяцца ніколі. Няпраўда! Распад СССР быў наканаваны. Не толькі парламентарыі, але і простыя людзі разумелі, што надалей гэтую абрэвіятуру — СССР — з такімі адносінамі паміж складнікамі-рэспублікамі, якія былі паміж імі на той час, захаваць ужо немагчыма. І галасавалі мы за дэкларацыю свядома, галасавалі з радасцю і пачуццём гонару, што ў Еўропе, у самым цэнтры яе, узнікае дзяржава Беларусь, што яна зойме нарэшце свой “пачэсны пасад між народамі”, што ў яе будзе свой старадаўні герб і нацыянальны сцяг, што народ наш пасля цяжкіх і шматгадовых выпрабаванняў атрымае сапраўдныя магчымасці для

*(Працяг на стар. 3)*



# КОЛА ДЗЁН

***Рэферэндум, які задумаў восенню правесці першы беларускі прэзідэнт, набывае ўсё больш канкрэтныя абрысы. Кола пытанняў пашыраючыся — звужваецца. Ужо быццам бы адпала пытанне пра НАТА, затое стала зразумелай канчатковая мэта задуманага: маркуючы па пытаннях, якія плануецца вынесці на "раду з народам", прэзідэнту мала ўлады, дадзенай яму па Канстытуцыі. Хочацца не проста неабмежаванай, а абсалютнай. Уключэнне пытанняў аб павелічэнні тэрміну прэзідэнцтва да сямі гадоў, аб утварэнні двухпалатнага парламента, аб зацвярджэнні паловы суддзяў Канстытуцыйнага суда самім прэзідэнтам дало падставы некаторым журналістам і палітыкам назваць планы прэзідэнта "канстытуцыйным (рэферэндумным?) пераваротам"... На сёння існуе толькі адна рэальная сіла, якая здольная супрацьстаяць планам прэзідэнта — парламент. Менавіта ён павінен прыняць рашэнне аб правядзенні рэферэндуму і зацвердзіць пытанні, адно з якіх, дарэчы, пазбаўляе будучыні сам парламент. Ці падпіша парламент сабе прыгавор? Усё можа быць... Ёсць, праўда, і яшчэ адна сіла, якая здольная зруйнаваць прэзідэнцкія задумы. Сіла гэтая — знявераны, стомлены бясконцымі абяцаннямі і пошукамі ворагаў народ. Пакуль ён "безмолвствует". Пакуль. Але моўчкі чакаць лепшага жыцця яшчэ сем гадоў яму наўрад ці захочацца...***

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі на мінулым тыдні ўпершыню адкрыта выказаў сваю незадаволенасць палітыкай Расіі ў справе "інтэграцыі". Ход пасля расійскіх выбараў, па вялікім рахунку, чаканы і прадказальны. Тым больш, што і сапраўды надта шмат няяснага і незразумелага ў "супольніцтве двух незалежных дзяржаў". Быў "нулявы варыянт" ці не было, чаму "мытны саюз" дзейнічае толькі з аднаго боку — беларускага і г.д. Пытанні гэтыя засталіся і пасля візіту Бальшакова. Аднак афіцыйная Масква (прэзідэнт ды прэм'ер-міністр) пакуль ніяк не адрэагавала на крыўку з боку А. Лукашэнкі. Праігнаравала? Не спалохалася... Што ж, тады кепскія справы ў "галоўнага інтэгратара" і, адпаведна, у "народа Беларусі", які толькі і спадзяецца на дабрачынную дапамогу "старэйшага брата".

### ЦЫТАТКІ ТЫДНЯ

"Апошняя прапанова прэзідэнта (аб правядзенні рэферэндуму) дэманструе, што ён і ягонае атачэнне спалохаліся. Яны разумеюць, што яшчэ крыху — і ў людзей розум пачне перамагаць эмоцыі, і тады стане немагчымым імі маніпуляваць. Падаўжэнне прэзідэнцтва да 7 год — гэта спроба адцягнуць як мага далей той самы час, калі людзі пачнуць кіравацца розумам у адносінах да таго, каго абралі сваім кіраўніком".

*(З інтэрв'ю Георгія ТАРАЗЕВІЧА "Свабодзе", 23 ліпеня г.г.).*

"Не трэба чакаць калапсу і таго, што мы знішчым сябе як нацыю. Мы дастаткова разумныя. Не захоча прэзідэнт уключаць рэаліі, адхілім яго, пойдзем далей. Я не бачу тут глабальнай праблемы".

*(З выступлення Станіслава БАГДАНКЕВІЧА на прэс-канферэнцыі парламенцкай фракцыі "Грамадзянскае дзеянне", "Свободные новости-плюс", N 29).*

### ЗАКЛІК ТЫДНЯ

Нацыянальны аргкамітэт святкавання Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у які ўвайшлі В. Быкаў, Г. Карпенка, С. Багданкевіч, С. Шушкевіч, Н. Гілевіч, А. Мальдзіс, Л. Баршчэўскі, А. Дабравольскі, Л. Гразнова і іншыя вядомыя на Беларусі дзеячы культуры і палітыкі, звярнуўся да ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь з заклікам "адзначыць нашае дзяржаўнае свята — Дзень незалежнасці — мірнымі шэсцямі, мітынгамі і святочнымі фэстамі і гэтым прадэманстраваць сваю рашучасць бачыць Беларусь вольнай, мірнай, квітнеючай краінай..." У Мінску ўдзельнікі святкавання будуць збірацца 27 ліпеня ў скверыку Янкі Купалы і адсюль у 11 гадзін калона рушыць па вуліцах Купалы і Багдановіча да Палаца спорту, дзе ў 11 гадзін 30 хвілін пачнецца мітынг... Дзяржаўныя структуры (акрамя, пэўна, міліцыі), занятыя фестывалямі ды візітамі, да самых апошніх дзён да галоўнага свята краіны практычна не рыхтаваліся. І толькі за дзень да святкавання было аб'яўлена пра маркуемы святочны канцэрт, у якім, па словах С. Посахава, прыме ўдзел і прэзідэнт...

### ЦЫНІЗМ ТЫДНЯ

Тое, што жывём мы не ў беларускай дзяржаве, а невядома дзе, час ад часу пацвярджаюць і публікацыі ў газеце "Знамя юности". Скажыце, ну якая дзяржава можа выдаваць газету, дзе шалёна ганьбуецца і абражаецца сама гэтая дзяржава? У нумары за 23 ліпеня пад рубрыкай "Горкие даты" і загалоўкам "Что празднуем, "спадары"?" нехта У. Зуеў адкрыта і бессаромна здзекуецца з галоўнага свята дзяржавы і, усяляк перакручваючы "факты", ставіць пад сумненне нават само яго існаванне (чаго вартая толькі рубрыка: "Горькие даты"?). Ну а апафеоз блюзнерства — прыпісачка ў канцы артыкула: "У час падрыхтоўкі матэрыялу да друку стала вядома, што шэраг партый і грамадскіх арганізацый ужо рыхтуюць звароты на адрас прэзідэнта і ўрада з просьбай перанесці галоўнае нацыянальнае свята (якое называецца цяпер Днём незалежнасці) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Абсурд. Ідыятызм... Такое ўражанне, што нехта (не Зуеў, вядома) сядзіць недзе ў куточку і толькі і думае пра тое, якую б гэта гадасць зрабіць гэтаму няшчаснаму (дурному) народу, каб канчаткова дабіць яго, задушыць, знішчыць, каб і следу не засталося ад яго гісторыі, сімвалаў, мовы і ад яго самога...

### АДМАЎЛЕННЕ ТЫДНЯ

Выступаючы на канферэнцыі БНФ, намеснік старшыні фронту Вінцук Вячорка заявіў, што УНА-УНСО не з'яўляецца палітычным саюзнікам і аднадумцам БНФ і што фронтаўцы не запрашалі УНА-УНСО да ўдзелу ў "Чарнобыльскім шляху"... Нарэшце прагучала тое, што даўно павінна было быць абвешчаным. З'яўленне УНА-УНСО ў Мінску ў сёлетнім красавіку ад пачатку выглядала дзіўным і, больш таго, правакацыйным, бо дагэтуль унсоўцы на Беларусі падтрымлівалі сувязі не з БНФ, а з прама супрацьлеглай арганізацыяй — СС "Белая Русь". І яднае іх, па вялікім рахунку — ворагаў, панславізм, незалежна ад грунту: расійскага ці ўкраінскага. На жаль, і на гэты раз БНФ апамятаўся запозна, прапагандыцкая машына ППРБ спрацавала ўжо напоўніцу.

### МАРШРУТ ТЫДНЯ

Уваскросшы з мёртвых, чачэнскі "тэрарыст", зяць Дж. Дудаева Салман Радуеў паведаміў у адным са сваіх інтэрв'ю, што яго пераправілі на лячэнне ў Германію "з раздробленым тварам, без дакументаў, праз Беларусь..." Што дзівіцца — самы кароткі шлях, плюс "мытны саюз" ды адзіная мяжа на Захадзе... Агаломшаныя аб'яднаныя памежнікі пакуль ніяк не пракаментавалі заяву С. Радуева.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Газета "Звязда" (20 ліпеня г.г.) "адным сказам" паведаміла такі факт: за апошнія пяць гадоў на Беларусі было зачынена-ліквідавана 865 бібліятэк, 977 клубаў, 3136 кінаўстановак... Зразумела, куды ўжо нам сёння пра культуру дбаць, галоўнае ж — народ пакарміць, а будзе хлеб — будзе і песня...



Адгалоскі

## ЦЯЖКА РАЗВІТАЦЦА З МАРАЙ

Нешта такое няцяжка было прадбачыць. Чагосьці такога даўно чакалі. Чакалі з таго моманту, як спадар Лукашэнка яшчэ толькі распачаў "інтэграцыю". Памятаю, што публіцыст Юры Дракахруст папярэджваў: Расія будзе прыхільна ставіцца да "інтэграцыйных" захадаў беларускага прэзідэнта (чаму б і не, калі нехта добраахвотна бярэцца бараніць і ахоўваць імперскія інтарэсы на колішняе "ўскраіне"), але сам Аляксандр Рыгоравіч для Расіі асоба непрымальная. Замахваючыся на ролю "собирателя русских земель" і агульнаславянскага лідэра, ён відавочна парушае субардынацыю. Гэта роля — для чалавека з Масквы. Калісьці Багдан Хмяльніцкі падарыў Маскве Украіну, пасля чаго Масква пазбавіла Хмяльніцкага палітычнай авансцэны — памёр нікому непатрэбны.

Зыходзячы з сённяшніх беларуска-расійскіх стасункаў, няцяжка было прадбачыць, што надыдзе момант, калі сп. Лукашэнка будзе вымушаны развітацца са сваёю марай і ў адпаведнасці са сваім характарам нагаворваць неасцярожных слоў, цяпер ужо ў адрас Масквы.

Гэта адбылося 22 ліпеня падчас сустрэчы з беларускімі прадпрымальнікамі. Сустрэча транслявалася па тэлебачанні. Так што, хто хацеў, мог пачуць з вуснаў галоўнага "інтэгратара", што Расія не выконвае ўмоў мытнага пагаднення і шэраг іншых "цікавых" фактаў. Мы, маўляў, зрабілі для інтэграцыі ўсё, што маглі, а яны...

Магчыма, назаўтра сп. Лукашэнка пашкадаваў аб сказаным, але фрагменты ягонага выступу былі паказаны ў той жа дзень у інфармацыйных праграмах расійскага тэлебачання. Мяркую, цяпер яму будзе даволі цяжка спіхнуць усё на "нячэсных журналістаў".

Гаворачы "Расія", прэзідэнт РБ па сутнасці меў на ўвазе Ельцына. Бо для сп. Лукашэнкі дзяржава ўвасабляецца ў асобе кіраўніка дзяржавы. Некарэктныя выказванні ў адрас расійскага лідэра сп. Лукашэнка дазваляў сабе і раней (калі даваў сваю ацэнку Белавежскім пагадненням). Але пасля выбараў сітуацыя ў пэўнай ступені змянілася.

Зрэшты, расійскае кіраўніцтва можа нерваваць не толькі спантанныя паводзін прэзідэнта РБ, але і спробы прэзідэнцкага "заўхоза" Ціцянкова дзейнічаць на расійскім рынку так, як ён прызвычаіўся рабіць гэта ў Беларусі. Гарэлачная справа "Торгэкспа" далёка яшчэ не закрыта, а тут яшчэ пайшлі гаворкі аб матэрыяльнай падтрымцы кіраўніцтвам Беларусі Ельцынскага саперніка ў часе прэзідэнцкіх выбараў. Была тая падтрымка альбо не, атрымаў Зюганаў з Беларусі 10 мільёнаў даляраў альбо не атрымаў — час пакажа. Але інфармацыя ў масы пайшла, і на грамадскую думку ў Расіі ўплывае. А прынцыповае адрозненне Ельцына ад Лукашэнкі ў тым, што прэзідэнт Расіі прыслухоўваецца да грамадскай думкі ў сваёй краіне і дбае аб прэстыжы дзяржавы за мяжой. Прэстыж не ў малой ступені залежыць ад таго, якіх дзяржава мае саюзнікаў, якія падтрымлівае рэжымы.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

## "ВЫМУШАНЫ ЗАБРАЦЬ МУЗЫКУ..."

Ужо сама гэта назва, пад якой у "ЛіМе" за 21 чэрвеня г.г. быў надрукаваны ліст кампазітара А. Мдзівані ў нашу рэдакцыю, прыцягнула ўвагу чытачоў. А змест ліста не пакінуў абыякавым, здаецца, нікога, бо гаворка ў ім вялася пра неадназначную сітуацыю, у якой апынуўся аўтар музыкі знакамітага балета "Страсці" ("Рагнеда"). Мінуў амаль месяц з часу той публікацыі, і вось — новы ліст, падпісаны таксама кампазітарам, але да таго ж і кіраўніком ДАВТа С. Картэсам. Публікуем яго з надзеяй, што "кропка ў сумным інцыдэнце" і сапраўды будзе пастаўлена і нам не давядзецца зноў вяртацца да надрукаванага.

Дарагая рэдакцыя!

У апошні дзень маёй працы ў якасці дырэктара Тэатра оперы і балета (з 17 ліпеня я буду займаць пасаду дырэктара-мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы) я хачу бы на старонках "ЛіМа" ў апошні раз вярнуцца да страсцей вакол балета А. Мдзівані "Страсці". Калі на самай справе відэазапіс балета, зроблены ў прысутнасці кампазітара, быў адрэдаваны за мяжу без ягонага ведама, дык незалежна ад юрыдычнага пункту гледжання, з этычнага боку — трэба было паведаміць пра гэта А. Мдзівані. Напамінаю чытачам газеты, што ва ўсім астатнім тэатр непахісна прытрымліваўся сваіх абавязкаў перад А. Мдзівані: яго аўтарства адлюстравана ва ўсіх рэкламных і інфармацыйных матэрыялах, што зыходзілі з нашага боку (іншая справа, што ў некаторых газетных публікацыях прозвішча кампазітара забывалася, дык гэта пытанне культуры і сумлення журналістаў).

Спадзяюся, што на гэтым будзе нарэшце пастаўлена кропка ў сумным інцыдэнце, і балет "Страсці" прадоўжыць сваё яскравае сцэнічнае жыццё на радасць кампазітару, аўтару харэаграфіі, усім стваральнікам і ўдзельнікам спектакля і публіцы, што так яго палюбіла!

**Сяргей КАРТЭС**

*16.07.1996*

## ПОМНІК ЧАЧОТУ НАД МЫШАНКАЙ



Ян Чачот, як вядома, нарадзіўся ў засценку Малюшычы Навагрудскага павета, але каля 1806 года сям'я пераехала ў ваколіцы Новай Мышы ля Баранавіч. Над маляўнічай Мышанкай, недалёка ад Калдычэўскага возера і Свіцязі, і рос будучы паэт, які любіў падпісвацца "Ян з Новай Мышы".

Удзячныя жыхары Баранавіцкага раёна першымі на Берасцейшчыне і другімі на Беларусі ўрачыста адкрылі помнік Яну Чачоту. З нагоды гэтага ў Новай Мышы выступілі старшыня Баранавіцкага райвыканкама В. Раінчык, загадчык аддзела культуры І. Абрамовіч, самадзейная паэтка з роду А. Гаруна Б. Лаптоўская-Прушынская і аўтар гэтых радкоў. Для навамышан і гасцей была паказана літаратурна-музычная кампазіцыя, арганізавана выстаўка твораў Я. Чачота і кнігі пра яго.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

*Фота М. КАШКО*

Анонс

## "РАКУЦЁЎСКАЕ ЛЕТА"

У вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага р-на, у філіі музея Максіма Багдановіча, 27 ліпеня 1996 года, у суботу, адбудзецца свята паэзіі і песні, прысвечанае Максіму Багдановічу. На свяце выступяць вядомыя беларускія паэты і барды. Запрашаем усіх аматараў беларускага прыгожага пісьменства. Праезд электрычкай у маладзечанскім накірунку да станцыі Уша. Пачатак свята ў 11 гадзін.

## ПЛАЧА ЖОРАЎ НАД ПАКУТНАЙ ЗЯМЛЁЙ

### ДНІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ВЫХАДУ Ў ВЫДАВЕЦТВЕ "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА" КНІГІ "ПРАЙСЦІ ПРАЗ ЗОНУ", ПРАЙШЛІ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ.

Як мы паведамлялі ўжо, нядаўна на Гомельшчыне адбыліся Дні беларускай літаратуры, падставай для правядзення якіх стала выданне кніг свайго роду чарнобыльскай анталогіі "Прайсці праз зону". Аднак "чарнобыльскай зонай", як вядома, сталі і іншыя куткі нашай Бацькаўшчыны. Магілёўшчына — не ў апошнюю чаргу. Не сакрэт жа цяпер: чарнобыльскія воблакі, якія рухаліся ў бок Масквы, акурат над Магілёўшчынай былі спынены. А ў выніку — адселеныя вёскі, зламаныя людскія лёсы і тыя, што і на Гомельшчыне, праблемы. А ў нечым яшчэ і больш складаныя, бо калі там пра чарнобыльскія беды даведаліся амаль адразу, дык тут куды яшчэ доўжэй разважалі, што і як рабіць...

Таму боль Чарнобыля — гэта і боль Магілёўшчыны. І невыпадкова, даведаўшыся пра выхад кнігі "Прайсці праз зону", там выказалі жаданне, каб мінчане прадставілі магчымасць лепш пазнаёміцца з ёй, наладзілі сустрэчы з аўтарамі. Зноў жа, як і ў першым выпадку, да гэтай важнай справы з разуменнем паставіліся як у выдавецтве "Мастацкая літаратура" з боку дырэктара Серафіма Андраюка, так і ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь, дзе ініцыятыву ўзяў у свае рукі памочнік міністра Валерый Протчанка. А ў выніку было вырашана правесці не проста прэзентацыю такога важнага і патрэбнага на сённяшні дзень выдання, а зноў жа Дні беларускай літаратуры. Да жыхароў Магілёўшчыны выбраліся аўтары гэтай кнігі Мікола Мятліцкі, Алесь Пісьмянкоў, Міхась Башлакоў, Вадзім Спрынчан, Арсен Сакун і іншыя.

Пачатак мерапрыемству быў пакладзены ў абласным цэнтры. Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Цумараў расказаў гасцям аб справах працаўнікоў горада на Дняпры, аб'ектыўна гаварыў аб праблемах, што даюць аб сабе знаць на сённяшні дзень, расказаў, як мясцовыя ўлады дбаюць і аб культурных справах.

Наступная сустрэча адбылася ў Магілёўскім педагагічным інстытуце імя А. Куляшова, дзе сабраліся студэнты-завочнікі і выкладчыкі гэтай вышэйшай навучальнай установы. Дэкан філалагічнага факультэта,

*(Працяг на стар. 4)*

# "ГАЛОЎНАЯ ІДЭЯ — БУДАВАННЕ СВАЙГО ДОМУ..."

(Працяг. Пачатак на стар.1)

ўсебаковага развіцця, для адраджэння сваёй старадаўняй і высокай культуры. Памятаю, ніколі не забуду пачуццё гонару і захаплення ад першага поспеху нашых спартсменаў на алімпіядзе, калі яны ўвайшлі ў дзесятку лепшых каманд свету. Колькі было спадзяванняў, што за гэтым трыумфам нашай дзяржавы будуць новыя перамогі і здзяйсненні. Але, на жаль, неўзабаве пачалося ў нас рабіцца нешта іншае — неразбярыха, непаразуменне ў эканоміцы, хлусня ў палітыцы, усеагульнае таптанне на месцы і нават адкат назад. І сёння, напярэдадні чарговага Дня незалежнасці краіны, я ўжо не магу, як гэта ні прыкра, сказаць, што зведваю пачуццё гонару за яе...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, так званы парад суверэнітэтаў пракаціўся тады па ўсіх былых саюзных рэспубліках. З таго часу краіны Прыбалтыкі, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі, Украіна, Малдова прайшлі па шляху незалежнасці куды далей, чым мы. Чаму нашы шляхі разышліся? Беларусь жа — па ўсіх паказчыках — мела нібыта найбольшыя шанцы хутчэй і лягчэй перайсці да рынкавай эканомікі і наладзіць нармальнае, чалавечае жыццё для людзей. Чаму ж суседкі, былыя нашы сёстры, абагналі нас?**

— Ну, нельга, бадай, сказаць, што мы вельмі зайздросцім нашым суседзям, тым не менш яны сапраўды цвёрда пайшлі сваім шляхам. І многія з іх на самай справе дасягнулі немалых поспехаў. Я, напрыклад, думаў, што і Украіна пойдзе па шляху незалежнасці больш упэўнена і паспяхова, маючы даволі шчодрыя прыродныя рэсурсы, але там, на жаль, прыблізна такое ж становішча, як і ў нас. Таму я не гаварыў бы катэгарычна, што мы адсталі, прытым моцна, ад усіх. Тым не менш, мы сапраўды пляцёмся ў хвасце эканамічных пераўтварэнняў. Наогул, тое, што робіцца сёння ў нашай эканоміцы, цяжка зразумець і вытлумачыць, і калі так будзе працягвацца яшчэ два-тры гады, дык адзін Бог ведае, ці выплывем мы. Мы адстаём ад іншых у эканамічных рэформах. Гэта мы бачым і самі, і гэта гавораць нам суседзі. Тая ж Расія, калі мы вядзём з ёю гаворкі пра эканамічную інтэграцыю. Адстаём сама мала на 3—4 гады ад той жа Расіі. Чаму гэтак здарылася? Мяркую, гэта ўсе разумеюць. Як і тое, што асабліва гэта дзеецца ў апошнія два гады.

У Беларусі дэмакраты так і не прыйшлі да ўлады. Прыход дэмакратычнага лідэра Шушкевіча быў толькі прыходам самога Шушкевіча, ніякай каманды разам з ім не прыйшло. Гэта была ці не самая галоўная памылка дэмакратычнага руху Беларусі. Далей — болей памылак. Тыя ж прэзідэнцкія выбары — зноў няма яднання людзей дэмакратычнага напрамку. І сёння, калі да ўлады прыйшоў А. Лукашэнка, пры ўладзе засталася, без сумнення, старая партыйная наменклатура. І лідэр — з яе ж шэрагу, толькі не такога высокага ўзроўню. Колішняя партыйная наменклатура, асабліва ў верхніх эшалонах, была куды вышэйшага ўзроўню, чым узровень сённяшняга лідэра. І калі сёння ёсць супрацьстаянне ці, больш дакладна будзе сказаць, непаразуменне паміж камуністамі і прэзідэнтам, то гэта толькі непаразуменне, непрыняцце ўзроўню інтэлектуальнага, палітычнага кругагляду. На самай справе Аляксандр Рыгоравіч аддана служыць справе Леніна, і робіць усё тое ж, што рабілася раней у нашай колішняй рэспубліцы з назваю БССР. Мы застаёмся на старых эканамічных поглядах, на старой сацыяльна-эканамічнай ідэалогіі, і таму мы сёння ў ізаляцыі ад еўрапейскіх краін, ад усяго практычна свету. Нас не разумеюць ні далёкія краіны, ні бліжэйшыя, нас не разумеюць нават нашы суседзі, у тым ліку і Расія. Такая ідэалогія замыкае нас у сваёй шкарлупіне, з якой мы вымушаны вырывацца, вылазіць самі...

**— Хачу запытаць вас аб тым, што, бадай, найбольш цікавіць чытачоў "ЛіМа" — газеты творчай інтэлігенцыі. Яна, кажуць, заўсёды знаходзіцца ў апазіцыі да ўлады. Як, пэўна, і наогул інтэлігенцыя — навуковая, тэхнічная, педагагічная. Сёння ў нас гэта асабліва відавочна. Генадзь Дзмітрыевіч, якая, на вашу думку, роля інтэлігенцыі, у тым ліку і творчай, інтарэсы якой рэпрэзэнтуе наш штотыднёвік, у суверэннай дзяржаве, асабліва на пачатку яе станаўлення?**

— Напачатку творчая інтэлігенцыя, а мо асабліва тэхнічная, навуковая, не стаяла ў апазіцыі да ўлады. Тады, калі на чале яе стаяў Шушкевіч. Яна разумела яго, падтрымлівала, жадала наспелых перамен у грамадстве. Не разумела іншага — чаму ён марудзіць з рэформамі, чаму не запатрабаваў высокі патэнцыял — інтэлектуальны, духоўны, грамадзянскі — інтэлігенцыі. Што да сённяшняй улады, дык, безумоўна, інтэлігенцыя сёння знаходзіцца ў жорсткай апазіцыі да яе. Прэзідэнт шукае масток паміж сабой, паміж кіруючай уладай і інтэлігенцыяй з тым, каб яна скарылася, схіліла ў пакоры галаву. Аднак я думаю, што гэтага не адбудзецца. Хоць бы таму, што інтэлігенцыя сама па сабе мае больш высокую і падрыхтоўку, і самасвядомасць, чым сённяшняя ўлада, дакладней, прадстаўнікі яе, у тым ліку на самым высокім узроўні. Сёння ў нас сама ўлада абвастрае супрацьстаянне ў грамадстве. І таму я вельмі хацеў бы, каб інтэлігенцыя давяла людзям, што робіцца ў нашым грамадстве, вытлумачыла ім сітуацыю. А найперш, можа, інтэлігенцыя павінна данесці людзям нашу гісторыю, розныя палітычна-вострыя моманты гэтай гісторыі. Мы ўсе, народ наш амаль не адукаваны гістарычна. Я працаваў у Польшчы і шмат разоў пераконваўся ў тым, што там кожны школьнік раскажа гісторыю сваёй краіны ад "а" да "я". А мы, можна проста сказаць, пазбаўлены сваёй гісторыі, мы дзесяцігоддзямі вывучалі не сваю, а чужую гісторыю. Распавесці пра ўсё гэта людзям сёння надзвычай цяжка, мо як ніколі цяжка. Сёння, калі тваё імя занесена ў спісы апазіцыянераў, ты начыста адлучаны ад радыё, тэлебачання ды і іншых сродкаў масавай інфармацыі. І другое. Мы павінны думаць сёння ўжо і пра новыя выбары, не кажучы пра давыбары. Дай Бог, каб наша інтэлігенцыя дайшла да разумення, што на гэтыя выбары дэмакраты павінны ісці з'яднанымі. Перавыбары ў Расіі Ельцына — нам добры прыклад і ўрок. Менавіта згуртаванне дэмакратычных сіл прывяло там да поспеху.

**— Прэзідэнт і Вярхоўны Савет — дзве галіны ўлады: выканаўчая і заканадаўчая. У ідэале паміж імі не павінны быць супрацьстаяння, канфрантацыі, вострых непаразуменняў. Сённяшняя ж сітуацыя ў Беларусі — далёка ад ідэала. І самае дзіўнае, парадаксальнае ў тым, што гэтае супрацьстаянне праяўляецца і ў поглядах на незалежнасць, суверэнітэт дзяржавы. Курс Вярхоўнага Савета, калі можна так сказаць, больш суверэнны, больш незалежніцкі. Што вы можаце сказаць наконт гэтага?**

— Я не сказаў бы, што ў гэтым супрацьстаянні — а яно, на жаль, безумоўна ёсць! — ляжаць нейкія ідэі, курсы, накірункі. Вядома, пэўныя адрозненні ёсць, але не яны ўсе ж вызначальныя. Хутчэй гэта супрацьстаянне аднаго чалавека з усімі. Я гэта разглядаў бы менавіта ў такой плоскасці. Давайце прыгадаем тое, што было. Было супрацьстаянне з Вярхоўным Саветам XIII склікання, з Канстытуцыйным Судом, супрацьстаянне са сваёй першай камандай, супрацьстаянне з сілавымі міністрамі, супрацьстаянне з прэсай, супрацьстаянне з моладдзю на мітынгах і шэсцях, супрацьстаянне з дэпутатамі XII склікання, калі іх збілі і выкінулі з будынка ВС... Памятаеце: я прыйду, разбяруся, у мяне ёсць спісы, ёсць факты злоўжыванняў... Сёння тыя "спісы" ў ягонай камандзе... Я не кажу пра супрацьстаянне з асобнымі палітыкамі: людзі ёсць розныя, сёння яны непрымірымыя апаненты, а заўтра могуць паразумецца, хоць, зрэшты, для такога чалавека, як А. Лукашэнка, не надта характэрна, каб сысціся са сваімі праціўнікамі. Кажуць, што я ледзь ці не першы ягоны апазіцыянер. Сёння, будучы намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета, я не маю права быць — на сваім пасадным узроўні — цэнтрам ці аплотам супрацьстаяння. Але калі робяцца крокі, якія не паддаюцца разуменню, нармальнай чалавечай логіцы, а то і проста павінны карацца крымінальна, не супрацьстаяць гэтаму я не маю права. Я веру, што пройдзе час, і народ кожнага з нас спытае: чаго ты там сядзеў, што ты рабіў? Дык вось хоць бы сабе самому я магу сказаць, што я рабіў і раблю...

Да чаго ў нас даходзіць, сведчыць хоць бы такі факт. Не так даўно ў нас прайшла сустрэча з членамі Савета дырэктараў Еўрапейскага банка. Іх найперш турбавала такое пытанне: як, маўляў, з вамі, гэта значыць з намі, можна працаваць, супрацоўнічаць, калі вы мяняеце раз-пораз свае законы, калі ўказ супрацьстаіць закону, падмяняе закон, калі дзейнічае не закон, а нейкі нарматыўны акт, і г.д. Сорамна прызнацца, але Вярхоўны Савет вымушаны быў прыняць Закон аб адказнасці за выкананне... законаў. Гэта ж абсурд, абракадабра з пункту гледжання нармальнага чалавека, нармальнай краіны, калі падпісваецца ўказ аб... невыкананні закона! Сорамна пры сустрэчах з людзьмі, з палітыкамі, з фінансістамі і эканамістамі, якія прыязджаюць да нас з намерамі супрацоўнічаць, — сорамна адказваць на падобныя іхнія пытанні. Я ўжо не кажу пра тое, куды можа прывесці нашу дзяржаву невыкананне законаў, прававое бязмежжа... Таму Вярхоўны Савет, і я асабіста, павінны, абавязаны зрабіць усё для таго, каб знайсці паразуменне з прэзідэнтам, з выканаўчай уладай. Іншага шляху няма.

**— У прэзідэнцкім асяроддзі ўзнікла і распрацоўваецца праграма пад назваю "Ідэалогія беларускай дзяржаўнасці". Нібыта ўсё добра, але... Навошта вынаходзіць веласіпед? Агульнавядома ж, што любая дзяржава ўзнікае, сцвярджаецца і развіваецца, ідзе да росквіту на грунце нацыянальнай ідэі. Ці не так, Генадзь Дзмітрыевіч?**

— Я чытаў гэтую праграму, і скажу шчыра, не ведаю, для каго і дзеля чаго яна, калі ты пішаш адно, а робіш — іншае. З другога боку, я, можа, сёння не падкрэсліваў бы асабліва і значэнне нацыянальнай ідэі, хоць, безумоўна, цалкам пагаджаюся, што яна — аснова, грунт любой дзяржавы. Чаму? Успомнім, як было пастаўлена пытанне на рэферэндуме аб мове і якія крыкі "ўра!" і гігіканне былі аб перамозе на тым рэферэндуме. Горка ўсё гэта, але і забываць на тое не трэба. Такі наш народ. Трэба нашым палітыкам і навукоўцам, інтэлігенцыі нашай усвядоміць, што нацыянальная ідэя не авалодала пакуль што масамі. На жаль, гэта так. Нацыянальная ідэя выспела ў лепшых розумах народа, яна ішла, рухалася, развівалася, але яе паступальныя крокі былі гвалтам спынены. Таму трэба ў гэтым кірунку працаваць і працаваць. Найперш, вядома, нашай інтэлігенцыі і ў першую чаргу — творчай, навуковай. Таму я лічу, што ідэя дзяржаўнасці павінна распрацоўвацца і прапагандавацца. Вядома ж, у выхаванні народа, у тым ліку і ў выхаванні ў ім пачуцця дзяржаўнасці, велізарная роля належыць культуры. Нацыянальнай культуры, падкрэслю. У разуменні гэтага мы павінны выходзіць таксама на еўрапейскі ўзровень. Возьмем хоць бы само вызначэнне прыярытэтаў. Летась Нацыянальны фестываль песні і паэзіі ў Маладзечне прыкрылі, перавялі ў Мінск, у залу. Потым зразумелі, што знішчыць, растаптаць яго ўсё ж немагчыма, вярнулі назад, у Маладзечна, вярнулі без падтрымкі і ўвагі — выплывайце, ратуйцеся, як сабе хочаце. А вось "Славянский базар" — вунь як падтрымалі, выдзелілі яму велізарныя сродкі — больш за 300 тысяч долараў. Я быў на "Славянском базаре", быў разам з Сямёнам Георгіевічам Шарэцкім у той дзень, калі там праходзіў Дзень Беларусі. І што? Мы не пачулі амаль ніводнай беларускай песні, у беларускі дзень тон задавалі там выканаўцы з іншых краін, а пра нашу Беларусь нагадвалі толькі два трактары "Беларусь" з прычэпамі, выведзеныя на сцэну. Было неяк непамысна за такі нацыянальны дзень Беларусі на "Славянском базаре-96"...

**— Апошнія вясновыя падзеі, Генадзь Дзмітрыевіч, паказалі, яшчэ раз красамоўна пацвердзілі, што найбольш актыўна і свядома незалежніцкі шлях развіцця краіны падтрымлівае моладзь. Вы самі ішлі ў шэрагах красавіцка-майскіх шэсцяў і навочна бачылі гэта. Аб чым вы думалі ў сувязі з гэтым?**

— Была адна думка, радасная, вядома: знайшлася ўсё ж сіла, якая выйшла, каб прадэманстраваць, заявіць аб сабе цвёрда і адназначна, паказаць, што яна бароніць ідэі незалежнасці, выступае за сваю дзяржаву, за свой народ, за яго будучыню. Сіла гэта — моладзь. І гэта нараджала ў душы пачуцці гонару, радасці, надзеі. На жаль, такіх пачуццяў не зведваў другі бок. У час шэсця "Чарнобыльскага шляху" я пабачыў людзей з дубінкамі, са шчытамі, таксама маладых людзей, якія былі гатовы іншую моладзь, пад сцягамі і плакатамі, біць, хапаць, саджаць у міліцэйскія машыны. Я выходзіў да іх, да гэтых хлопчыкаў у шлемах і бронекамізэльках, гаварыў ім, што яны — такія ж дзеці Беларусі, як і тыя, што насупраць іх, у калонах "Чарнобыльскага шляху". І думалася ўжо пра гэтых, узброеных і непрымірымых, і думалася з трывогаю і горыччу... Некалі ж яны павінны быць і будуць разам, у адных шэрагах, як, паўтару, дзеці адной маці-зямлі Беларусі.

**— І апошняе пытанне, Генадзь Дзмітрыевіч: якія перспектывы ў нашае дзяржавы, ці ёсць яны?**

— Перспектывы ёсць, безумоўна. Але пры адной умове: калі мы пачнем самі ладзіць парадак у сваім доме, а не ўскладаць усе надзеі на стварэнне розных саюзаў, супольнасцяў, інтэграцый. Галоўная ідэя — будаванне свайго дому, сваёй дзяржавы. Я спадзяюся, што мы ўсе дойдзем да гэтага разумення і да паразумення ў гэтай справе. Адно шкада, што пакуль, на жаль, трацім час, а даўно пара было б думаць аб сваёй радзіме і працаваць на яе карысць. Веру, цвёрда веру ў тое, што наша краіна будзе жыць, што над ёю разгарыцца ясная зара і прывядзе з сабою светлы, залаты дзень.

**З Генадзем КАРПЕНКАМ гутарыла Марыя ГІЛЕВІЧ**

Варункі

# НАШАЯ ПЕСНЯ

**Добра памятаю з дзяцінства, гадоў дваццаць пяць таму, у вёсцы ў бабулі, летам да суседняй маладой дзяўчыны прыходзіў хлопец з вёскі за пяць кіламетраў і спяваў на ўвесь голас, чакаючы яе на вуліцы: "Ой там у полі, у полі, Сцелещца ў полі туман..." Голас у хлопца быў гучны і прыгожы, маладая суседка не спяшалася выскокваць з хаты, трымала характар, і ён цярпліва чакаў яе, праходжваўся, спяваючы адную і тую ж, мабыць, ягоную любімую песню. Неяк жа звязвалася яна ў яго з гэтымі спатканнямі.**

**Трывожыла яна і маю дзіцячую душу, выклікаючы штосьці нязвыкла хвалюючае. І мне ўяўлялася, што калі я вырасту, у мяне гэтаксама будзе дзяўчына, да якой я буду вось так хадзіць і спяваць пад вокнамі.**

**Але пакуль я стаў дарослым — так ужо не спявалі. Мне ўдалося заспець, мабыць, апошняе пакаленне, якое спявала яшчэ на вуліцах свае, беларускія песні. Дзяўчаты — пабраўшыся за рукі й ідучы па вуліцы, хлопцы — пры вогнішчы.**

**Была ўжо і тады расійская папса, накшталт "Песні пра Колю-трактарыста": "Каласілась поле разгустое, Налівалісь усікі аўса. Гдзе-та за дзярэўняю далёка Дзевушак звінелі галаса".**

**Мая бабуля ніколі пры мне не спявала. Але калі я папрасіў яе, ужо студэнтам, наспявала мне на касеты больш за сто песень! І ў яе была адная такая, ейная песня, пра ўдаву, у якой снег ляжыць на пашы, калі ў іншых ён ужо растаў... Яна спявала яе і плакала.**

**А што зараз? Нашае гарадское пакаленне ўжо амаль не ведае песень сваіх бацькоў і бабуль. Зразумела — калі гэта жніўныя ці вясельныя, бо ўжо не так бяруць шлюб і жыта сярпамі амаль не жнуць. Але вось жа за сталом... Якая ж безліч гэтых застольных, бяседных, жартаўлівых беларускіх песень! Ведаю, мы іх добра наспяваліся ў групе, калі былі студэнтамі.**

**За апошні год разы тры даводзілася мне быць на розных вялікіх застольных бяседах, дзе сядзела ў асноўным моладзь. І калі справа даходзіла да песні, як на грэх, усюды адзінае, што спявалі больш-менш зладжана, была: "Вот кто-то с горочки спустился". Расійская маскультура пышна квітнее на нашых беларускіх палетках.**

**Хаця з дзецьмі ўжо ёсць і паіншаму. З прыемнасцю я сядзеў на калядным канцэрце ў класе свайго сына-першакласніка. Клас беларускі і выхавацелька-энтузіястка развучыла на каляды з дзесятак разнастайных беларускіх песень. Трэба было бачыць, з якой цікавасцю і як нязмушана спявалі іх дзеці. Упэўнены, гэтыя песні яны ўжо не забудуць. Можа, мы і ўбачым калі-небудзь вялікую грамаду беларусаў, якая не будзе стаяць моўчкі, а здолее зладжана праспяваць "Магутны Божа" ці "Пагоню". Варта было б, як гэта і робіцца ў нармальных краінах, усё музычнае выхаванне пабудаваць найперш на сваёй нацыянальнай музыцы, спевах. І тады гэта дало б плён, наша песня не памерла б.**

**І самае істотнае — лепшую беларускую народную песню мусіць прапагандаваць радыё і тэлебачанне, каб яна там заўсёдна гучала і западала ў душу. Ды зараз у пашане ў нас базары, на якіх, мабыць, беларусам, на чале з "усенародна абраным", варта было б зацягнуць:**

**Ой вы дзевачкі беларускія,**
**Не ўлюбляйцеся у расійскіх рабят,**
**Бо расійскія ўсе й жанатыя,**
**У заблужджэнне**
**прыводзят дзяўчат.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛІСТ ДА ЗЕМЛЯКА

# НОРМА — ВЕРНАСЦЬ КАРАНЯМ

Паважаны Сямён Георгіевіч!

Вы, магчыма, здзівіцеся, атрымаўшы мой ліст. А мо і не. Бо дапускаю, дый амаль перакананы, што да Вас ужо дайшлі чуткі пра запланаванае пасяджэнне Рады Згуртавання наваградцаў свету (ЗНС), дзе, сярод іншага, будзе выказана стаўленне да Вашай, як Старшыні Вярхоўнага Савета, пазіцыі ў сённяшняй, надзвычай складанай, нават трагічнай для лёсу Беларусі сітуацыі...

Мы, Вашыя землякі, былі ўсцешаны і шчырым сэрцам ад імя ЗНС віншавалі Вас з абраннем на высокую пасаду, спадзеючыся, што набыты багаты жыццёвы вопыт, адукаванасць, укарэненасць у спрадвечныя беларускія вытокі, памяркоўна-ўзважаная, але дастаткова прынцыповая пазіцыя будуць трывалай супрацьвагай нястрымнаму імпэту і непрадказальнасці нашага маладога Прэзідэнта, ды стануць гарантам дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, пашанотнага стаўлення да духоўнай спадчыны роднага народа — ягонай культуры, мовы, гісторыі, іншых нацыянальных каштоўнасцяў — а таксама дэмакратыі, агульначалавечых вартасцяў, без чаго нават пры знешніх атрыбутах суверэнітэту нам наканаваны ганебны імідж "нягеглага" народа, бутафорнай дзяржавы, здольных у "паўнацэнных" нацый выклікаць хіба што пачуцці жалю, пагарды і няўцямнасці, а не павагі, партнёрства і падтрымкі...

Вашы шматлікія інтэрв'ю і заявы для СМІ, робленыя на пачатку працы ў ВС, абнадзейвалі, хоць асобныя выказванні і выклікалі на спрэчку. Ды кожны мае права на асабістыя погляды, усім не дагодзіш, а ідэальных палітыкаў, як і людзей, проста не бывае — галоўнае, без чаго нельга абысціся, дык гэта без трывалага стрыжня, без сваёй лініі паводзін, уласнай паслядоўнай пазіцыі.

Падзеі ж разгортваліся так, што патрабавалі ад Старшыні Вярхоўнага Савета моцнага душэўнага гарту і непахіснасці. Аднак, на жаль, Ваша стаўленне да ідэі і прынцыпаў дзяржаўнай незалежнасці не толькі не набывала цвёрдасці і ўгрунтаванасці, але, наадварот, станавілася ўсё больш хліпкім, анемічным, згодніцкім...

Няўжо закружыла галаву яўна дыпламатычна-этыкетнае, а значыць змушанае, фармальнае запабяганне перад Вамі высокіх крамлёўскіх мужоў, тое, што яны самі пагадзіліся папрацаваць пад началам беларускага Прэзідэнта і спікера парламента ў супольных, нібыта наднацыянальных органах?.. Дык гэта ж усяго толькі дыпламатычны ход, своеасаблівая гульня дарослых з дзецьмі. І каб не атрымалася ўрэшце з гэтага тое, што з тым канём: косю, мой косю, на табе торбу з аўсом... а потым хваць за грыву, ды ў хамут, у аглоблі, ды пугаю па азадку!..

У хамут трапіць лёгка — куды цяжэй выбрытацца з няволі! А мы ж павінны думаць не толькі пра сябе, але і пра дзяцей сваіх і ўнукаў, якія, хочацца верыць, будуць пазбаўлены комплексу непаўнацэннасці, набудуць усведамленне высокай чалавечай і нацыянальнай годнасці, захочуць пачувацца вольнымі сярод вольных, ніколькі не горшымі, чым, скажам, палякі, венгры, бельгійцы ці галандцы. Дык ім што, як і іхнім прадзедам, зноў трэба будзе брацца за зброю і пачынаць вызвольныя паўстанні, губіць сябе ў крывавых закалотах?!

Ці так ужо нам патрэбна сёння гэтае злучэнне з Расіяй, якая захлынаецца крывёю ад вайны ў Чачні; яе, як і нас, таксама трасе эканамічная і сацыяльная ліхаманка, а прамаруджванне з выплатай не такой ужо і вялікай зарплаты да выбарчай кампаніі Б. Ельцына было нават большым, чым у Беларусі. Нас спакушаюць таннымі нафтай і газай, але дзе яна — тая манна нябесная, чаму нашы даўгі Расіі катастрафічна растуць, а мы дазваляем бясплатна гнаць праз нашу тэрыторыю грузы на Захад, маючы ад гэтага няўхільнае пагаршэнне экалагічнай сітуацыі. А хіба разлічыліся з намі за вывезеную, у тым ліку і атамную, зброю, за здратаваную вайскоўцамі зямлю?! Найбольшы аргумент за далучэнне — чарнобыльскі: нам, маўляў, ніяк не справіцца адным з гэтай страшнай бядою, вось каб быў Саюз, дык даўно б усё было вырашана! Ну, па-першае, чаму мы павінны адны выжыльвацца, калі ў гэтай бядзе віна Беларусі найменшая?! Хто і што перашкаджалі і перашкаджаюць Расіі дасюль дапамагчы Беларусі ў яе жахлівай бядзе?! Хіба, каб дачакацца спрыяння, трэба абавязкова стаць на калені і ўздзець на шыю нявольніцкае ярмо?! Нічога сабе роднасць, братнія повязі, пра якія мы так гучна трубім на ўвесь свет!

Што датычыць "свяшчэнных вузаў", дык жылі ж мы ў адной дзяржаве, адною сям'ёю ў той час, калі выбухнула чарнобыльская катастрофа. Як жа вялікая Расія шанавала тады сваю сястрыцу — маленькую Беларусь? Хіба не па камандзе з Масквы было загадана маўчаць і ўтойваць нечуваную бяду ў той час, калі трэба было біць ва ўсе званы, гукаць на дапамогу людзей здалёк і зблізку і як мага ратавацца! Замест таго, каб зрабіць самае простае і неабходнае — параіць пацярпелым выпіць па лыжцы ёду, што ўратавала б шчытавідкі, было загадана гнаць усіх на першамайскія дэманстрацыі і крычаць здравіцы ў гонар КПСС! А па чыім загадзе было скамандавана расстрэльваць над ужо і так засыпанай радыяцыяй Беларуссю "цяжарныя" новымі бедамі і смерцямі хмары?! Ці Вы мо забыліся, што было потым? Дык нагадаю. Вось як ацэньваў сітуацыю не нейкі там патаемны на той час бэнээфаўскі лісток, а орган ЦК КПБ "Коммунист Белоруссии", якога ну ніяк не папракнеш у нацыяналізме і непрыхільнасці да Расіі ў верасьнёўскім нумары за 1990 год, асвятляючы XXVIII з'езд КПСС, які адбыўся пару месяцаў назад, у часопісе зазначалася: "Мы ахвяры не толькі самога Чарнобыля, але і таго, што дагэтуль, нягледзячы на ўсе пастановы, не дадзена ацэнка нацыянальнаму бедству, таго, што ад нас спрабуюць адмахнуцца, як ад дакучлівых мух. Мы — заложнікі маўчання" (с. 122). І, дадам ад сябе, абыякавасці, поўнай няўвагі, амаральнага стаўлення да таго, хто, будучы ў рабскай залежнасці, павінен, сцяўшы зубы, глуха маўчаць нават тады, калі ўзнікае пагроза смерці! А вось як трактаваў нявольніцкую залежнасць ад імперскага цэнтра тагачасны міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка, выступаючы ў верасні 1991 г. на сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый: "Галоўны вінаваты ў чарнобыльскай трагедыі — Мінатамэнерга СССР, якое працягвае існаваць як магутная бюракратычная сістэма, — атрымаў у 1991 г. ад экспарту энергіі 650 мл. долараў. З гэтых грошай Беларусь не дастала ні капейкі". Вось вам і братняя дапамога, і выгоды жыцця ў адзінай дзяржаве!..

Дык на што мы спадзяёмся сёння, пішчом лезучы ў абдымкі Масквы?! Мо Расія перастала быць імперыяй, усе рэсурсы якой — матэрыяльныя, інтэлектуальныя, ідэалагічныя — падпарадкаваны рэалізацыі гэтай імперскай ідэі, унутранай прадвызначанасці, дзе такія, як мы, ці Чачня — проста нішто? Гэта ў тым выпадку, калі маўчым і паслухмяна выконваем дзяржаўную волю "народа-баганосца". Але варта толькі заўпарціцца, паказаць самастойнасць — і тады шквальны агонь, у якім з дзесяці забітых прыкладна адзін "баявік", а рэшта — мацяркі, старыя, дзеці! Якраз як у нас у вайну, калі немцы вялі барацьбу з партызанамі, якіх яны, як і афіцыйныя расійскія СМІ чачэнскіх апалчэнцаў, называлі проста бандытамі!

Апазіцыя наша, агітуючы супраць зліцця з Расіяй, палохае народ Чачнёй, гэта сапраўды па-прапагандысцку выйгрышны момант, там расійскія войскі мелюць крывавае мліва, ганьбяць сябе і Расію перад усім цывілізаваным светам. Прэзідэнт жа клянецца перад народам, што ніколі не дапусціць, каб беларускія ваякі змагаліся на чужой тэрыторыі. Узнікае правамернае пытанне: няўжо сапраўды Аляксандр Рыгоравіч верыць у сваю несмяротнасць, у тое, што ён заўжды будзе "бацькам" беларускага народа, ці, калі пакіне прэзідэнцтва, дык і наваствораны ССР аўтаматычна распадзецца!?.

Чачня для Беларусі — хутчэй сімвалічная перасцярога бяды ва ўмовах магчымага існавання ў Расійскай імперыі, прывід, але яшчэ не сама бяда. Куды больш рэальнай пры нашым нацыянальным менталітэце ўяўляецца небяспека завязнуць у канфлікце Расіі з НАТА.

Апрацоўка грамадскай думкі ў гэтым кірунку бадай што ўжо пачалася ў выступленнях Прэзідэнта і яго аднадумцаў. Лукашэнка пагражае натаўцам зноў вярнуць ракетныя войскі на Беларусь, стварыць з нашай рэспублікі надзейны ядзерны (і не толькі!) шчыт у супрацьстаянні натаўскім вайсковым структурам. Наколькі падобная ваяцкая бравада і яго, і ягоных бліжэйшых паплечнікаў і дарадцаў напалохала НАТА — сказаць цяжка, хоць, калі між намі, асабіста мне такая адчайная смеласць нагадвае паводзіны аднаго вядомага з байкі Крылова персанажа, які з блазенскай заўзятасцю прагнуў нагнаць страху на велікана-слана...

Мо варта кіраўнікам маленькай краіны з вельмі абмежаванымі патэнцыялам і састарэлай тэхнічнай аснашчанасцю крыху прыглушыць свой ваярскі імпэт, рэальна ацаніць магчымасці, цвяроза развaжыць, што дасць нам гэтае безразважнае супрацьстаянне Захаду? Яно, хоць расперажыся, ніякіх выгодаў, а тым больш перамогі нам не дае і даць не можа, нават і ў самым цесным саюзе з Расіяй. Бо сёння яна, мо як ніколі, усяго толькі калос на гліняных нагах, у тым ліку і ў справах вайсковых. Дзеля пераканаўчасці давайце згадаем, як падрыхтоўваліся і праводзіліся натаўскія вайсковыя аперацыі, як іх аб'яднаныя войскі гналі — аж пыл курэў! — не такую ўжо і слабую іракскую армію з Кувейта. Хіба можна з гэтым прадуманым і забяспечаным да драбніц грандыёзным вайсковым шоу параўноўваць самадзейна-бяздарныя аперацыі расійскай арміі ў Афганістане і Чачні, якія ўвойдуць у вайсковую гісторыю ўвасабленнем неарганізаванасці, бязладдзя, рэкорднымі для такіх маштабаў лічбамі пакладзеных на алтар бязглуздай вайны чалавечых жыццяў?!

Расію зразумець можна: такая ўжо ёй наканавана доля, такое яе спрадвечнае, сфарміраванае вякамі імкненне да славы і велічы, такі яе імперскі менталітэт, цяга да самасцвярджэння нават коштам крывавага падаўлення тых народаў і дзяржаў, што становяцца на шляху здзяйснення вялікадзяржаўніцкай ідэі...

Але навошта нам, нацыі малой і працавітай, што можа жыць толькі з розуму і мазаля, увязвацца ў глабальныя канфлікты і сваркі вялікіх дзяржаў, губіць народ, які і так за сваю шматпакутную гісторыю нацярпеўся і нагараваўся, кладучы за чужыя інтарэсы ў бясконцых войнах мільёны ахвяр?!



Звернемся да статыстыкі, да паказчыкаў, колькі было беларусаў у параўнанні з рускімі, украінцамі, палякамі і г. д. некалькі стагоддзяў назад і ў якой прапорцыі справа выглядае цяпер. Лічбы не тое што для нас не суцяшальныя — яны скрушліва-жахлівыя! У дадатак, мы і сёння, пакуль што без вайны, пры гэтым жабрачым жыцці выміраем, усыхаемся і размываемся. Ці на гэтую праблему народныя абраннікі на чале са сваім Старшынёй проста прыплюшчылі вока і мала дбаюць?..

Не на збройныя канфлікты, а на мірную стваральную працу, на цывілізаванае сужыццё ў агульначалавечай грамадзе трэба арыентаваць наш спакойны працавіты народ, ведаючы, што толькі стабільнай, прадказальнай, дэмакратычнай краіне свет дапаможа ўзняцца з бездані.

Што датычыць эканамічных выгодаў, якімі так настойліва спакушаюць прыхільнікі новага Саюза, дык цяпер, калі ў Расіі ўсё больш трывала ўсталёўваецца капіталізм, наіўна спадзявацца, што нам нехта будзе нешта задарам адпускаць ці прадаваць па льготных коштах, альбо, ужо са свайго боку, пачне купляць у нас прадукцыю нашых заводаў, фабрык і калгасаў. Ілюзіямі на гэты конт можна сябе цешыць і яшчэ год-паўтара дурманіць цярплівы і нейкі на здзіў наіўны ў сваёй даверлівасці народ, але чым гэтае самаашуканства адбіваецца ў рэальным жыцці, пераконваемся штодзень, імкліва набліжаючыся да поўнага краху. Таму, пакуль не захлынуліся ў эканамічным бязладдзі, апошні шанец узяцца за дзяржаўныя справы з разважлівай цвярозай галавой, пачаць рэформы, усталяваць дэмакратыю, абудзіць у народа пачуццё нацыянальнай годнасці, адчуванне ў ім Гаспадара, а не парабка і паднявольнага раба на ўласнай зямлі, абыякавага і няхлюйнага, які спадзяецца не на сябе, а на добрага пана, што накорміць, напоіць і ў цёплую пасцельку пакладзе...

Мяркую і глыбока перакананы: адна з галоўных, першаступенных задач Вярхоўнага Савета на сучасным этапе заключаецца ў выпрацоўцы рознабаковай канцэпцыі далёкасяжнага развіцця Беларусі з улікам не нечых, а ўласных нацыянальных інтарэсаў. Пры гэтым трэба кіравацца не эмоцыямі, не сваімі асабістымі сімпатыямі і антыпатыямі тыпу "рускія нам браты, з імі нам трэба жыць разам", а жорстка рацыянальным падыходам. Гэтага вымагае наша геапалітычнае становішча ў цэнтры Еўропы, якое дазваляе нам балансаваць, шукаючы выгаду як на Усходзе, так і на Захадзе, застаючыся ўвесь час свабоднымі і ні ад кога незалежнымі ў сваім выбары. Але ж тут патрэбен вялікі розум, найтанчэйшая дыпламатыя, найдакладнейшая выверанасць у словах і справах, а не сумбурна-заліхвацкія выступленні і выказванні, якімі мы прымушаем ці то смяяцца ці скаланацца ўвесь свет. Не буду называць імя і пасаду гэтага чалавека, бо і без гэтага ясна: ён у нас — адзін і непаўторны. Але, выбачайце, і Вы, чалавек разважлівы і спакойны, апошнім часам нібы імкняцеся патрапіць у гэты тон, памахаць пальцам, а то і ўсім кулаком у бок іншай дзяржавы і яе народа. Маю на ўвазе Ваша выступленне ў Вярхоўным Савеце 3-га мая, у дзень вялікага для палякаў Свята Канстытуцыі.

Так, сапраўды, дачыненні беларусаў і палякаў на працягу гісторыі складваліся няпроста, часам для нашага народа драматычна. Бо што можа быць горш, чым страта незалежнасці, да чаго прывяла унія Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, у выніку чаго на працягу стагоддзяў марнеў і паніжаўся беларускі дух, гібела наша культура, выціскалася з афіцыйнага ўжытку мова. Тое ж адбывалася, хоць і пры моцным супраціве, ва ўмовах існавання Заходняй Беларусі пад Польшчай у міжваенны перыяд. Гэта гісторыя, ад якое нікуды не дзенешся. Але ёсць у беларусаў прымаўка: хай у таго вока выцеча, хто ўспомніць старыя крыўды. Маюцца на ўвазе "ўспаміны", якія вядуць да сварак і звадак як між людзьмі, так і народамі, краінамі. А ці патрэбна нам гэта сёння, ці зацікаўлены беларусы, каб варагаваць са сваёй заходняй суседкай, што паказвае нам, як трэба будаваць цывілізаванае жыццё, у якім нормай становіцца дэмакратыя, свабода слова і думкі, шаноўнае стаўленне да сваёй духоўнай спадчыны? Павага да спрадвечных агульначалавечых каштоўнасцяў не перашкаджае, а, наадварот, дапамагае ладзіць шчаслівае заможнае жыццё. Але такі варыянт, які вядзе да свабоды і самаўсвядомленай у сваёй годнасці асобы — нам відавочна не па густу!..

Выглядае, што ўзяты кірунак на стварэнне ў самым цэнтры Еўропы фенаменальнай дзяржавы таталітарнага лацінаамерыканскага ўзору, скарэкціраванай на асаблівасці беларускага менталітэту, уласцівага найбольш цёмнай частцы народа, амаль цалкам пазбаўленай нацыянальнай свядомасці, абыякавай да сваёй гісторыі, духоўнай спадчыны, мовы, культуры. Ды з гэтым не хоча пагаджацца і ніколі не змірыцца другая, няхай сабе і колькасна меншая, але духоўна і маральна куды больш трывалейшая частка, у шэрагах якой пераважна актыўная моладзь, гэта значыць — будучыня Беларусі.

Два альтэрнатыўныя, блізкія па часе правядзення мітынгі — першы ў абарону незалежнасці Беларусі, другі, яму супраціўны — за фактычную здачу свайго суверэнітэту Расіі —

(Працяг на стар. 12, 15)

## УПЕРШЫНЮ РАЗАМ

**У выдавецтве "Юнацтва" пабачылі свет добра вядомыя юным чытачам аповесці Івана Сяркова "Мы з Санькам у тыле ворага", "Мы — хлопцы жывучыя" і "Мы — артылерысты", са старонак якіх паўстае маленства, апаленае вайной. Галоўныя героі твораў Іван і Санька (а ў аповесцях відочны і аўтабіяграфічныя моманты) разам з аднавяскоўцамі перажылі акупацыю, хоць і з цяжкасцю, пераадолелі першыя пасляваенныя гады — не менш гаротныя і галодныя, і, нарэшце, падаліся вучыцца ў артылерыйскае вучылішча. У аповесцях расказваецца пра жыццё нялёгкае і няпростае, ды аўтар, які, несумненна, закаханы ў сваіх герояў, знаходзіць месца цёпламу, дасціпнаму гумару.**

## ТРЭЦІ НУМАР "КРУГА"

**адкрываецца артыкулам А. Басучка "Ліквідатары праблем", аўтар якога па-свойму асэнсоўвае падзеі, звязаныя са знішчэннем у Мінску тэрарыста, які прабраўся ў дзіцячы сад. Вядомы вучоны-эколаг А. Кудзельскі ў артыкуле "Маўчанне навукі" прыходзіць да такой высновы: "Улада, не задумваючыся аб будучыні, аднаўляе эканаміка-тэхналагічныя сувязі СССР. Гэтыя сувязі для Беларусі — забойныя". Юрыст Н. Доўнар каменціруе тыповыя прававыя сітуацыі — "Знай правы, вучы закон", а журналіст А. Казловіч працягвае знаёміць з павучальнымі жыццёвымі гісторыямі. В. Тарас у развагах "Глуханемата" закранае балючыя моманты сучаснага жыцця Беларусі, якую разбудзілі... дубінкі спецназа. У. Арлоў знаёміць з беларускім атэістам XVII стагоддзя К. Лышчынскім. Г. Марчук ("Іерусалім. 3000 гадоў") расказвае пра святыню трох рэлігій. І не толькі... Завяршаецца ж нумар "Дасье рэдактара", у якім прыводзяцца тлумачальныя запіскі тых, хто дзесяць гадоў назад удзельнічаў у Гуканні вясны, што праходзіла ў Мінску ў Траецкім прадмесці і было разагнана, — "10 гадоў без вясны".**

## ЛЁС ЗВЯЗАЎ З ... "МАЛАНКАЙ"

**Маецца на ўвазе, вядома, гумарыстычна-сатырычны часопіс "Маланка", што выходзіў у былой Заходняй Беларусі. А свой лёс з ім звязаў беларускі графік і жывапісец Язэп Горыд. Акрамя таго Язэп Міхайлавіч афармляў часопісы "Родныя гоні", "Заранка", газету Беларускай сялянска-рабочай грамады "Народны звон". Дзякуючы Я. Горыду набылі свой "твар" зборнік М. Багдановіча "Вянок" (2 выданні, 1927), кнігі паэзіі М. Танка "Журавінавы цвет" (1937), М. Васілька "Шум баравы" (1929). Папрацаваў ён афармляць і песенныя зборнікі А. Грыневіча, Р. Шырмы. Выканаў Я. Горыд і літаграфічныя партрэты Я. Купалы, Я. Коласа.**

**Адным словам, шчыра працаваў на ніве беларускасці, дбаў аб яе заўтрашнім дні.**

**Па шчаслівай выпадковасці дзень нараджэння Язэпа Міхайлавіча прыпадае акурат на Дзень незалежнасці. А з'явіўся ён на свет роўна сто гадоў назад. І хоць пражыў усяго сорак тры гады, пасля сябе пакінуў значны след. Дарэчы, рупны даследчык усяго, што звязана з жыццём Заходняй Беларусі, Арсен Ліс прысвяціў Я. Горыду кнігу "Пякучай маланкі след", што пабачыла свет у 1981 годзе.**

## ДЗЯКУЮЧЫ КЛУБУ "СПАДЧЫНА"

**з'явіўся каляндар-плакат, які знаёміць з асобнымі момантамі нашай багатай нацыянальнай гісторыі. На адным баку гэтага выдання, рэдактарам якога і адказным за выпуск з'яўляецца старшыня клуба А. Белы, змешчана карта "Старажытная Беларусь" (склалі яе А. Белы і І. Курыцын, намаляваў А. Цыркуноў), на другім жа можна пазнаёміцца з выявамі вялікіх князёў літоўскіх (мастак А. Крывенка). У календары пазначаны праваслаўныя і каталіцкія святы.**

# У ПОШУКАХ КУПАЛЬСКАЙ КВЕТКІ

Адгарнуў "Полымя" і неяк адразу пасвятлела і пацяплела на душы. Найперш ад усведамлення, што лішні раз можна пераканацца, наколькі духоўна багацейшыя мы, чым некаторым падаецца. Радасць гэтая — ад спаткання з творчай спадчынай А. Смоліча. Ён, знакаміты навуковец, першы прафесар геаграфіі на Беларусі, як вядома, не абмяжоўваўся даследчыцкімі справамі. І не толькі прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, а калі канкрэтней — рупіўся аб нацыянальным Адраджэнні, а яшчэ і творы пісаў. Цяпер з асобнымі з іх можна пазнаёміцца дзякуючы Я. Кісялёвай. У артыкуле, што папярэднічае публікацыі, яна дае ацэнку гэтым творам, расказвае і аб тым, як доўга яны захоўваліся ў архівах, чакаючы свайго часу.

У шостым нумары змешчаны дзённікавыя запісы вучонага, яго празаічныя, вершаваныя і публіцыстычныя накіды. Працяг будзе ў ліпеньскім нумары "Полымя" і, думаецца, чакаецца сустрэча не менш цікавая, бо А. Смоліч працаваў і над п'есай "Любасць прыдзе — цемру зможа", што ў чыставым варыянце атрымала назву "Хай прыдзе згода". Як у дачыненні да нашага сённяшняга дня, дык — сімвалічную. Сапраўды, не хапае нам згоды, яшчэ як не хапае! Абвінавачваем адзін аднаго ў самых розных (існуючых і надуманых) грахах, абвінавачваем і ніяк не хочам зразумець, што ўсё гэта толькі шкодзіць агульнай справе беларускасці.

Можа, у сувязі з гэтым, лепей прыслухацца да А. Смоліча, які працаваў у куды больш складаных умовах і які (да гонару яго і як прыклад нам!) усё ж дзеля найбольш важнага, вызначальнага, істотнага мог і не зважаць на дробязі. У рэшце рэшт яго пазіцыю ў адраджэнскай справе ў многім праясняе адзін з публіцыстычных накідаў. Бадай, у А. Смоліча выспяваў артыкул, ды па нейкіх прычынах так і застаўся незавершаным. Але і тое, што напісалася, нельга абысці ўвагай, бо меркаванні А. Смоліча не толькі не ўстарэлі, а сталі ў нечым яшчэ больш актуальнымі.

А яны аб ролі інтэлігенцыі ў грамадскім жыцці: "Беларуская інтэлігенцыя каму хочуце (тут і далей захавана адметнасць арыгінала. — **А. М.**) служыла, толькі ні свайму народу. З народу яна ўмела па тры скуры дзерці — але каб расчыніць яго вочы, даць яму стравы духоўнай — яна ні думала, бо як толькі можна было, яна старалася вырачыся навзт свайго імені, усякага зьвязку свайго з простым народам. Мы павінны нарыхтаваць гэты зьвязак, мы павінны сплаціць свой і бацькоўскі доўг. Інтэлігенцыя расейская даўно ўжо спазнала свае павіннасьці і служыць ім, яна ідэалізавала свой народ, як на бога, на яго малілася, а ў нас — у нас дагэтуль на селяніна, што працаю сваёю ўвесь сьвет корміць, глядзяць з пагардаю (а калі ён галаву падойме — сіляцца як мага ізноў яе прыціснуць), лічуць за скаціну, з яго мовы зьдзекуюцца, высьмейваюць найдарожшыя скарбы душы яго. Гэтаму мусіць быць канец, бо яно ўсё — глыбокая несправядлівасьць, бо народ наш вялікія сілы ў сабе хавае і здолее жыць ня горш ад людзей".

Пра свой народ думаў А. Смоліч, пішучы і верш "***Часам я ў ночы сны дзіўныя бачу..." А ў снах тых знаходзіла адбітак самае запаветнае: "роіцца нейкі нязьведаны край, Повен то шчасьця, то радасьці"... І з'яўлялася гэткае зразумелае кожнаму, хто аб шчасці Бацькаўшчыны рупіцца, жаданне:

**Хочэцца быць мне ў тым краю каханым,**
**Хочэцца край той абняць, з прастаты**
**Хочэцца крыкнуць: гэй, край каханы,**
**Будзь мне як маці, будзь родны мне ты.**

**Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,**
**Бераг вадой абмываць, цалаваць,**
**Дай мне век цэлы дружыць з табою,**
**Кветкі і зоры ў табе адбіваць.**

**Дай мне купальскую кветку у рукі,**
**Рукі скаваныя мне разьвяжы,**
**Дай ты мне зельле на горэ і мукі,**
**К шчасьцю гасьцінец мне дай, пакажы.**

Матывы, канечне, больш чым традыцыйныя... Аднак не будзем забываць, што пісаў гэта не паэт, прымаючы пад увагу гэта, мастацкі ўзровень больш чым прыстойны. Ды рэч не толькі ў гэтым. Ёсць у вершы яшчэ адзін радок, а ён акурат і надае сказанаму і выказанаму А. Смолічам тую адметнасць, што не выклікае аніякага сумнення — паэзія гэта. Апошні ж радок надзіва напоўнены тым унутраным зместам, які сам па сабе не вельмі кідаецца ў вочы, але які дае магчымасць шмат аб чым паразважаць. Адштурхоўваючыся ад верша, сягаючы далей і глыбей пранікаючы ў сутнасць самога жыцця "Ціха, нічога ня чую, ні бачу"... Цішыня гэтая падманлівая. Разам з ёю прыходзіць занепакоенасць. І трывога. Пра будучыню Бацькаўшчыны, трывога за народ, які інтэлігенцыя так і не здолела зразумець да канца, ды зразумець яго трэба. Як бы цяжка гэта ні давалася. Як бы ні гняло адчуванне, што і сам народ таксама мусіць нешта рабіць, каб не заставацца рабом. Ды ён, як аказваецца на паверку, найчасцей задаволены сваім падобным існаваннем. Дзесяцігоддзі, стагоддзі так жыў, і мяняць гэтае жыццё (а правільней — існаванне!) быццам і не збіраецца.

Толькі які народ зразумець?! І колісь цяжка было зрабіць гэта, а цяпер дык і — невыносна балюча. Дарэчы, пра гэта і адзін з вершаў В. Зуёнка з ягонае вялікае падборкі, якая адкрывае чэрвеньскую кніжку "Полымя":

**Я д'ябальскі гэты бачыў прыход,**
**Чуў д'ябальскае пытанне:**
**Ці выдасць мову сваю народ**
**На варварскае растаптанне?**

**І ён згадзіўся — маўчаць, як сканаць.**
**А мне — нявер'е расплатай:**
**Ці недастойны народ праклінаць,**
**Ці быць самому праклятым?..**

**Кайданіць думы бяссоння турма,**
**І ўжо надзея не свеціць:**
**Другога народа ў мяне няма —**
**Ні тут, на зямлі, ні ў сусвеце...**

Пакутны роздум, несуцяшальная рэчаіснасць... І нікуды ад гэтага не дзенешся. І наканавана жыць і з гэтым народам і на гэтай зямлі. І шукаць нейкае прымальнае выйсце. Разам шукаць, ідучы да той самай згоды, якую і меў на ўвазе А. Смоліч, пішучы сваю п'есу, якая на дзесяцігоддзі так і засталася ў архівах.

Аповесць Л. Калодзежнага "Вечнасць дымоў" самой назвай як бы нагадвае, што аўтар не збіраецца адыходзіць ад традыцыйных матываў. Галоўны герой твора ляснік Адам Богуш з кагорты дзівакоў, якім вельмі няўтульна на грэшнай зямлі. Спачатку жыў Адам у вёсцы, але нясоладка яму даводзілася, бо прывык гаварыць праўду ў вочы. Пасля ў горад падаўся, але не прыжыўся там, пацягнула назад у вёску. Зразумела, такая "рамантыка" яго жонцы не спадабалася, давялося развесціся. Толькі і цяпер не знайшоў Богуш жаданага спакою. А ўсё таму, што заўсёды баліць яго душа, калі сутыкаецца з несправядлівасцю. Яна ж у вёсцы ці не на кожным кроку. І не ў апошнюю чаргу ў тым, што мясцовы старшыня калгаса робіць што хоча. Нездарма яго за вочы клічуць Памешчыкам. З-за Шасціткі, яго пастаянных прыдзірак Адам, дарэчы, у свой час і развітаўся з вёскай. А канфлікт узнік з-за таго, што Богуш даваў раённаму начальству праўду пра "махінацыі з парасятамі", калі кіраўніцтва калгаса складала акт, што прыплод загінуў, а пасля ад продажу прысвойвалі сабе грошы. Шасцітка, як адзіны гаспадар, даводзіць да таго, што Адам трапляе ў міліцыю. Пасля такой несправядлівасці Богуш спрабуе павесіцца...

Выйгрышным сюжэт наўрад ці назавеш. Тым не менш твор прагучаў, бо перадусім спрацавала майстэрства Л. Калодзежнага. А яно праяўляецца ў вельмі жывых, індывідуалізаваных дыялогах (асабліва падчас гаворкі Адама з Васілінай, да якой даўно горнецца яго душа), а майстрам дыялога пісьменнік паказаў сябе яшчэ ў апавяданнях, у тым ліку і ў апавяданні "Аўсяны звон", якое дало і назву яго першай кнізе (1975); адчуваецца добрае веданне аўтарам мовы. А яшчэ спрацоўвае той, як бы лепей сказаць, настрой ці што, з якім Л. Калодзежны і пісаў Адама Богуша. Няцяжка заўважыць, што пісьменнік любіць свайго героя. І пішучы пра яго з любоўю (а сапраўдная любоў часам дазваляе і лёгкую ўсмешку), часцінку гэтага замілавання перадае і чытачу. Праўда, любоў атрымліваецца з гаркавінкай. Бо шмат яшчэ ў свеце зла і несправядлівасці, хіжасці, таму і людзі, падобныя Адаму Богушу, застаюцца грамадствам незапатрабаванымі, а іх дабрыня і шчодрасць сутыкаюцца са злом і агрэсіўнасцю. І дым Айчыны для іх горкі, але гэтым дым і вечны. І ад гэтага нікуды не падзенешся.

Калі адзін з персанажаў твора Жогаль усё ж змог уратаваць Богуша, паспеў перарэзаць вяроўку, і Адам паступова прыходзіць да памяці, у яго адбываецца такая гаворка з выратавальнікам:

"— Вогнішча паліш? — пытае.

— Ы-гы.

— Я-ткі чую — дым... горкі дым".

На тым у аповесці і пастаўлена апошняя кропка... Горкі дым... Няпросты роздум у творы. І разам з тым пастаянна прысутнічае адчуванне, што на зямлі яшчэ не ўсё страчана. Ва ўсякім разе да таго часу, пакуль жывуць на ёй людзі, падобныя да Адама Богуша. Нездарма ж кажуць: на дзіваках свет трымаецца.

Жорсткая рэчаіснасць, дзе пануюць зло і беззаконне, паўстае са старонак аповесці П. Пруднікава "Горкая свабода", раздзелы з якой прапануе "Полымя". Міхась Асцёрскі, з якім чытач знаёмы па-ранейшых творах пісьменніка, нарэшце апынуўся на волі. Ды свабода таксама аказалася нялёгкай, бо ці не на кожным кроку даводзіцца змагацца за праўду, а гэта не так і проста. П. Пруднікаў, прытрымліваючыся дакументальнай асновы, праўдзіва ўзнаўляе жыццё аднаго з тых, хто быў аб'яўлены "ворагам народа", а за Міхасём Асцёрскім бачацца сотні, тысячы гэткіх жа ахвяраў сталінізму, таталітарызму.

Тым не менш душа людзей, якія шмат перажылі, выпакутавалі, заставалася чулай і спагадлівай да іншых, калі гэта былі людзі сумленныя. Пацвярджэнне таму і шлях, пройдзены Л. Геніюш. Апошнім часам газеты і часопісы, якія прытрымліваюцца адраджэнскага кірунку, шмат удзяляюць увагі Ларысе Антонаўне. Прынамсі, у памяці многіх лісты Л. Геніюш да М. Танка, з якімі раней пазнаёміла "Полымя". А цяпер гэты часопіс, дзякуючы Ю. Голубу, знаёміць з пісьмамі Ларысы Антонаўны, якія атрымліваў у свой час ён, тадышні студэнт філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Гэта таксама свайго роду штрыхі да яе біяграфіі — чалавека, творцы, пакутніка.

Нядаўна народная артыстка Беларусі Л. Бржазоўская адзначыла 50-годдзе. Часопіс "Беларусь" на сваёй вокладцы змясціў каляровае фота, на якім славутая балерына знята ў сцэне са спектакля "Тыль Уленшпігель". Ёсць і іншыя здымкі, але ўжо як дапаўненне да артыкула А. Дашчынскага "Бржазоўская — легенда". Увогуле, у нумары шмат матэрыялаў, што тычацца розных аспектаў культурнага жыцця, нашай гісторыі. А гэта — і невялікі нарыс І. Масляніцынай і М. Багадзяжа "Маці Ягелонаў" пра Соф'ю Гальшанскую, якая, як вядома, стала жонкай 74-гадовага Ягайлы (тут жа выява яе, увасобленая А. Кашкурэвічам), і артыкул М. Цыбульскага пра наваполацкую акварэль ("У пошуках сваёй сцяжыны") са шматлікімі каляровымі ілюстрацыямі; і развагі В. Дубінкі пра славутую Алену Кіш ("Белая лябёдачка аб лёд крыльцамі б'ецца") з каляровымі выявамі яе дываноў... А яшчэ ў нумары вершы С. Давідовіча, А. Хатэнкі, вершаказы А. Разанава, разварот для дзяцей "Сонейка", вершы М. Дуксы. Г. Аўласенкі, Л. Мароза, А. Зэкава, казкі І. Шахрая і Я. Галубовіча і іншыя матэрыялы. А іх, вартых увагі, шмат. Як і ў чэрвеньскіх нумарах "Маладосці" і "Нёмана".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Віншуем!

# Вячаславу ЧАМЯРЫЦКАМУ — 60

*Вячаслаў Чамярыцкі — чалавек і творца глыбока эрудзіраваны, а гэта, безумоўна, ідзе толькі на карысць яго навукова-даследчыцкай дзейнасці. Ён перакладае са старажытнарускай і старабеларускай моў, прымаў удзел у выданні "Поўнага збору рускіх летапісаў" (тамы 32 і 35), склаў зборнік "Слова пра паход Ігаравы" (1986), напісаў прадмовы да шэрагу кніг. А пачынаў свой творчы шлях, як і пераважная большасць пісьменнікаў з вершаў, з якімі выступіў у 1952 годзе на старонках навагрудскай раённай газеты "Новае жыццё". З рэцэнзіямі ж, артыкуламі, даследаваннямі па старажытнай літаратуры выступае з 1959 года.*

*Аўтаманаграфіі "Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў" (1959), брашуры "Беларускі тытан эпохі Адраджэння" (1990), кнігі "Францыск Скарына" (разам з Г. Галенчанкам і В. Шматавым, на французскай мове — 1979, на англійскай — 1980), адзін з аўтараў кнігі "Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (т. I, 1968), "История белорусской дооктябрьской литературы" (1977), "История всемирной литературы" (т. 3, 1985, т. 4, 1987), падручніка для ВНУ "Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд" (1985).*

*З днём нараджэння, шаноўны Вячаслаў Антонавіч! Доўгіх год жыцця Вам, вялікіх поспехаў у адраджэнскай дзейнасці!*



# ПАКІНЕМ СПАДЧЫНУ...

## З ВЯЧАСЛАВАМ ЧАМЯРЫЦКІМ ГУТАРЫЦЬ АНАТОЛЬ КЛЫШКА

**А. К. Дарагі Чэсь (а на такі зварот, які для чытача можа падацца фамільярным, шаноўны Вячаслаў Антонавіч, мне дазваляе наша з табою амаль пяцідзесяцігадовае таварышкаванне), з 60-гадовым юбілеем, любы дружа!**

**У гэтыя ліпеньскія дні, калі бачыш грамадкі абітурыентаў перад дзвярыма ВНУ, міжволі ўспамінаюцца і нашы хваляванні лета 1953 года: мы прыехалі з Наваградка паступаць у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Ты, зморaны, прысеў на лавачцы ў прывакзальным сквэрыку, задрамаў на хвіліну і прахапіўся ўжо без цыратовага партфеля, у якім ляжаў атэстат сталасці, шклянaчка масла і некалькі рублёў, ашчаджаных тваёю мамаю — салдацкай удавою.**

**В. Ч.** Дзякуй за віншаванне. Цяжка, але і радасна ўспамінаць тое лета. Выпушчаныя Лаўрэнціем Берыем з турмаў многія асуджаныя, сярод якіх нямала і злодзеяў, хуліганаў. Пэўна, нехта з іх і пакваліўся на мой партфель.

Але — галоўнае — радасна абнадзеіла беларушчына. Сакратар райкома партыі раптам загаварыў па-беларуску... Распачынаецца справаводства на роднай мове. І нашы юначыя сэрцы насустрач гэтаму — поўныя энтузіязму...

**— Як ні кажы, а нам пашанцавала на настаўнікаў. Мяне, напрыклад, у педвучылішчы мове і літаратуры вучыў Мікалай Міхайлавіч Жук, родам са Случчыны, з яе літаратурнымі і змагарнымі традыцыямі, а таксама закаханы ў мастацкае слова Васіль Фёдаравіч Сакалоўскі, што вучыў некалі Паўлюка Труса і які, як аднаго разу згадваў Максім Лужанін, нават пацярпеў, заступіўшыся перад хуліганамі за свайго вучня. У зборніку Лукаша Калюгі мне ўсцешна было таксама ўбачыць прозвішча гэтага настаўніка.**

**А фізіку выкладаў настаўнік, які бачыў у Стоўбцах у чыноўнай канцылярыі Якуба Коласа: паэт якраз выйшаў з Мінскага астрога, падаўся вельмі зняверaным, расчараваным — не давалі працы.**

**Праўда, хапала і вельмі шавіністычна настроеных выкладчыкаў. Памятаю настаўніцу гісторыі СССР, жонку вайскоўца, якая не забараняла адказваць па-беларуску, але калі я адказваў, адзнакі проста не ставіла і назаўтра зноў мяне выклікала. Калі ж адказваў па-руску, ставіла "пяць".**

— А мяне вучыў Сцяпан Александровіч. Ён выкладаў у Навагрaдскай СШ N 1 беларускую мову і літаратуру. Падтрымаў мае першыя літаратурныя спробы. Дзякуючы яму я ўпершыню пазнаёміўся з многімі рэдкімі заходнебеларускімі выданнямі, пачуў невядомыя імёны забароненых тады пісьменнікаў і вучоных.

**— А памятаеш, як мы з табою ў тыя школьныя гады дабіраліся ў Наваельню, дзе ён працаваў, здаецца, у рускай вячэрняй школе... Не згледзелі, як да вечара прагаварылі пра літаратуру і потым 20 кіламетраў тупалі шашою ў Наваградак, узнёслыя, напоўненыя да краёчкаў беларушчынаю...**

**Сцяпан Александровіч выступаў тады яшчэ як рэцэнзент. Як мы былі ўражаны яго лімаўскім артыкулам "Пакручастыя сцежкі крытыка У. Карпава"!..**

**Райкомаўскае начальства выжыла яго з Наваградка. Мой старэйшы брат, які працаваў у баранавіцкай абласной газеце, казаў мне па сакрэце, што ў рэдакцыю з райкома партыі прыйшла папера, каб не друкавалі Сцяпана Александровіча: ён быў у фашысцкім палоне...**

— Які кашмарны быў той час, нават успамінаць не хочацца... А пасля мне шчасціла на іншых настаўнікаў. У Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, дзе я працую ўжо трыццаць гадоў у цудоўным творчым калектыве, асабліва цёпла і клапатліва да мяне ставіўся, па-бацькоўску дапамагаў і спрыяў светлай памяці Юльян Пшыркоў.

Шмат далі і асабістыя кантакты з выдатнымі вучонымі ленінградскай школы Д. Ліхачовым, І. Яроменым, Я. Лур'е. Апошнія былі і маімі навуковымі кіраўнікамі.

А якая вялікая школа для даследчыка-пачаткоўца — непасрэдная праца з пісьмовымі крыніцамі, даўнімі рукапісамі і рэдкімі старадрукамі, якім 400, 500 і болей гадоў, якія ствараліся ў часы, скажам, князя Вітаўта ці Францішка Скарыны.

Глыбокія духоўна-творчыя і плённыя прафесійна навуковыя інтарэсы на працягу амаль чвэрці стагоддзя лучылі мяне з Міколам Улашчыкам. Да гэтага чалавека, вучонага, патрыёта і пакутніка беларускай зямлі (яго тры разы садзілі ў сталінскія часы!) немагчыма было не цягнуцца. Ён быў у мяне апанентам на абароне дысертацыі і далучыў да падрыхтоўкі двухтомнага збору беларускіх летапісаў і хронік. Удзельнічаць у гэтай працы было хоць і цяжка, але і ганарова. Помню, у якіх незвычайна складаных умовах 1975 года рыхтаваў я для 35 тома Магілёўскую хроніку. Нават самому давялося перадрукоўваць на машынцы тэкст са старога, XVIII стагоддзя, рукапісу на польскай мове, які захоўваецца ў Санкт-Пецярбурзе.

**— Такім чынам, ты фактычна ўпершыню ўвёў у навуковы ўжытак гэты унікальны помнік беларускага летапісання.**

— Выходзіць, што так. Наогул, двухтомнае навуковае выданне нашай летапіснай спадчыны, ажыццёўленае дзякуючы тытанічнаму подзвігу М. Улашчыка, сталася сапраўднай падзеяй і яго значэнне цяжка пераацаніць.

**— Але пагадзіся, яно ўсё ж цяжка даступна шырокаму чытачу. Добра было б яшчэ мець томік гэтых твораў у перакладзе на сучасную беларускую мову.**

— Вось у мяне на стале якраз і ляжыць карэктура такой кнігі, што з ініцыятывы Уладзіміра Арлова рыхтуецца да выпуску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Літаратурныя помнікі Беларусі". Усе самыя значныя летапісныя помнікі Беларусі знойдзе ў ёй цікаўны чытач: ад гістарычнага падання пра Рагнеду да Магілёўскай хронікі XVIII ст. Тут змешчаны таксама "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх", "Хроніка Быхаўца", Баркулабаўскі летапіс і іншыя творы. Кніга будзе багата ілюстравана. Яна дапаможа зрабіць захапляючае падарожжа ў беларускую гісторыю, наблізіць да нас гераічны свет нашых продкаў.

Без гістарычнай памяці не можа быць нацыянальна свядомым народ. Вось чаму я і палічыў найперш узяцца за даследаванне такога некранутага, але вельмі важнага для нас матэрыялу. І першая мая манаграфія была — "Беларускія летапісы як помнікі літаратуры" (1969 год). А далей пайшло вывучэнне ўсёй нашай пісьмовай спадчыны ад часоў Рагнеды і аж да XVIII стагоддзя.

**— Я як спомню, табе заўсёды даводзілася нешта з кніг, прац ратаваць, дарабляць за іншых, дапрацоўваць, бясконца рэдагаваць дый рэцэнзаваць чужыя працы.**

— Ды ўжо ж. У 70-ыя гады, калі мае калегі Мікола Прашковіч і Вячаслаў Зайцаў за свае погляды былі пазбаўлены працы ў Акадэміі навук, мне давялося, каб выратаваць "Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (на рускай мове), якая рыхтавалася да друку, тэрмінова дапісаць за іх асобныя раздзелы.

**— За гэтую працу, як вядома, група навукоўцаў у 1980 годзе была ўзнагароджана Дзяржаўнай прэміяй БССР. Як жа ты — аўтар паловы раздзелаў саліднага тома і адзін з асноўных рэдактараў — быў выкраслены са спіса кандыдатаў у лаўрэаты? Прэміяй жа былі адзначаны і тыя, удзел якіх у працы абмежаваўся ўсяго 15 старонкамі, хоць я ані не стаўлю пад сумненне іх заслугі перад навукаю.**

— Я з пункту гледжання афіцыйных улад таксама аказаўся ідэалагічна не зусім чыстым. Да гэтага добра прычыніўся і сумна вядомы Л. Абэцэдарскі. Ён надрукаваў у "ЛіМе" пераважна на мае раздзелы ў папярэдняй, 1968 года, акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры разгромную рэцэнзію, а ў 1975 годзе напісаў разгорнуты данос у ЦК партыі на рукапіс нарыса пра Ф. Скарыну, адным з аўтараў якога я быў. Гэтая кніга пасля з цяжкасцю ўсё ж выйшла ў Парыжы пад эгідай ЮНЕСКА ў перакладзе на французскую і англійскую мовы, але ў пагоршаным варыянце.

**— Але ж справядлівасць урэшце перамагла: у 1994 годзе ты атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.**

— Толькі ўжо за іншае, за ўдзел у стварэнні прац па скарыназнаўстве, якія з'явіліся як вынік рэспубліканскай Скарынаўскай праграмы.

**— Дарэчы, ты, здаецца, быў і адным з кіраўнікоў гэтай праграмы?**

— Так, давялося папрацаваць.

**— Я з гонарам за цябе браў у рукі ў 1985 годзе падручнік па беларускай старажытнай літаратуры для ВНУ, падрыхтаваны з тваім удзелам. Успамінаў нашы студэнцкія гады: мы тады ўвогуле не мелі ніякага падобнага падручніка.**

**А твае старонкі ў такой аўтарытэтнай, шматтомнай маскоўскай "Гісторыі сусветнай літаратуры"...**

**Ды на добры том набярэцца артыкулаў, што ты напісаў для розных энцыклапедычных выданняў. Колькі іх у цябе?**

— Не лічыў. Але ў адной "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" змясціў іх больш за сто.

**— Не цураўся ты і рознай іншай, навукова-асветніцкай і грамадскай працы, напрыклад, музейнай.**

— Я дапамагаў у стварэнні Музея беларускага кнігадрукарства ў Полацку і Наваградскага гістарычна-краязнаўчага, у выпрацоўцы навуковай канцэпцыі і тэматычнага плана экспазіцыі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску, стварэнне якога лічу надзвычай важнай культурна-асветнай і глыбока патрыятычнай задачай.

**— А быў яшчэ ўдзел у шматлікіх навуковых канферэнцыях, з'ездах, сімпозіумах.**

**Улічваючы яшчэ дадатковыя цяжкасці, звязаныя са спецыфікаю пошуку і даследавання даўніх літаратурных тэкстаў, разумею, што ў такіх умовах немагчыма выдаваць нагара манаграфію за манаграфіяй, але, калі не сакрэт, што ў цябе на падыходзе?..**

— Хачу завяршыць яшчэ адну кнігу пра нашы летапісы, аснова якой збольшага была напісана дзесяць гадоў таму назад. Спрабую прасачыць раннія этапы станаўлення гістарычнай прозы ў Беларусі. Апрача таго, мне, здаецца, удалося разблытаць вельмі складаны вузел гісторыі ўсходнеславянскага летапісання XV стагоддзя, над якім многія вучоныя, пачынаючы ад акадэміка А. Шахматава, біліся на працягу ста гадоў. Але пра ўсё гэта лепш хай скажа мая кніга...

**— Жадаю ўдачы! І яшчэ папрашу хоць колькі слоў пра... Ты ж яшчэ ўзначальваеш у сваім інстытуце аддзел...**

— ...старажытнай і новай беларускай літаратуры. Таксама кірую аспірантамі. Раней у аддзеле працавала 10 чалавек, цяпер засталося 8, па адным на стагоддзе, бо мы даследуем і рыхтуем да выдання беларускую літаратурную спадчыну XI—XIX стагоддзя. А ўвогуле ў Інстытуце літаратуры за апошнія гады колькасць навукоўцаў зменшылася ўдвая. Тым не менш і невялікімі сіламі мы нямала робім. Варта пазнаёміцца ў даведніках са спісамі публікацый, скажам, Генадзя Кісялёва, Уладзіміра Мархеля, Язэпа Янушкевіча, якія працуюць у нашым аддзеле, каб пераканацца ў гэтым.

**— А што ў найбліжэйшых планах аддзела?**

— Збіраемся годна адгукнуцца на 200-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча, пачаць падрыхтоўку новай хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры і, галоўнае, асіліць працу над новай гісторыяй нашай літаратуры XI—XIX стагоддзя ў двух тамах. Хацелася б узняцца на больш высокую ступень у асвятленні шматвяковага працэсу развіцця нашай літаратуры, больш глыбока, поўна і аб'ектыўна раскрыць гісторыю асобных жанраў і творчую спадчыну шэрагу пісьменнікаў, каб і з фактычнага боку і канцэптуальна атрымалася сапраўды новая гісторыя.

**— А як увогуле табе бачыцца наша пісьмовая спадчына з вышыні стагоддзяў як чалавеку асабліва дасведчанаму? Бо ў звычайнага чытача пра тую спадчыну ўяўленне вельмі цьмянае...**

— Я пераканаўся ў глыбокай слушнасці сцвярджэння Я. Карскага, што рукапісная спадчына Беларусі даўняга часу не бяднейшая, чым руская, а старадрукаваная нават пераўзыходзіць апошнюю.

**— А Карскага не абвінавaціш у беларускім сепаратызме. Чалавека з такімі поглядамі царскі ўрад не прызначыў бы рэктарам ды яшчэ Варшаўскага універсітэта...**

— У часы свайго найвышэйшага росквіту, у эпоху першага Адраджэння, наша краіна паводле свайго культурна-гістарычнага развіцця першынствавала тады ва Усходняй Еўропе, а беларускі народ вылучыў еўрапейскага ўзроўню дзеячаў і пісьменнікаў і стварыў такія выдатныя помнікі культуры, літаратуры і мастацтва, якімі мы справядліва можам ганарыцца.

А выдатны рускі вучоны І. Галянішчаў-Кутузаў падкрэсліваў яшчэ і вялікую культурна-гістарычную місію Беларусі ва Усходняй Еўропе XVI—XVII стагоддзяў як "перадатчыцу заходнееўрапейскай літаратуры і адукаванасці Маскоўскай Русі".

**— Поспехаў усім вам! А я, дарагі Чэсь, хачу часцей бачыць цябе ў нашых штотыднёвіках і штомесячніках — у выданнях, скіраваных да самага шырокага чытача. Памятаю і праз дзесяцігоддзі твой натхнёны артыкул у газеце пра Паўлюка Багрыма. Я чытаў яго як верш. Акрамя літаратуразнаўчай глыбіні, там было гарэнне паэта, алітэрацыйная повязь слоў, жывое перажыванне... Ты, памятаю, і пачынаў з вершаў. Для мяне ёсць вялікая розніца між літаратуразнаўцам-паэтам і чыста навукоўцам...**

**А як бліскуча напісаў ты, напрыклад, рэцэнзію на літаратуразнаўчы слоўнік аднаго дамарослага вучонага, ужо нябожчыка, глыбока разбіраючы адно за адным яго недасведчаныя тлумачэнні тэрмінаў. І назва тваёй рэцэнзіі як найлепш адпавядала яе зместу — "Памылкі па алфавіце"...**

**Але разумею найпершую, асноўную задачу. Вы, навукоўцы, павінны ўсё зрабіць, каб наша даўняя спадчына сталася кожнаму відавочнаю, каб кожны беларус ведаў гэта і ўжо ніколі не адчуваў сябе бесхацінцам у гісторыі, каб у яго жыў гонар за сваю Бацькаўшчыну, да чаго заклікаў вялікі Купала: "Пакінем спадчыну мы для патомкаў"..., атрымаўную ад продкаў і ўзбагачаную сёння.**

**— А як жа даваць веры незалежнай прэсе? Пра вас пішуць: дзесяць тысяч долараў выдаткавалі на афармленне АТН, дыктарскія строі выпісалі ад Тэда Лапідуса і да т.п.?**

— Сёння ці не ў кожнай газеце або пляткараць пра тэлебачанне, або лаюць тэлебачанне, або выкрываюць тэлебачанне. У тэлебачанні разбіраюцца ўсе. На ўсіх узроўнях. Калегі, ну не дай жа Божа тэлебачанне пачне разбірацца ў прэсе...

**— "Прэс-імпрэза" Віталя Сямашкі яшчэ не разабралася?**

— У перадачы ідзе гаворка пра публікацыі аб тэлебачанні, але з іншымі задачамі. Любая газета мае наклад — хоць трыццаць, хоць трыста тысячаў асобнікаў. Тэлеаўдыторыя ўсё адно большая. Недасведчанасць газетчыкаў часам спараджае чуткі, плёткі, намовы. Я часам здзіўляюся: ды аценіце ж вы беларускае мастацкае вяшчанне! Калегі з Польшчы проста ў захапленні: як, маўляў, мы латвім на экране лепшыя стужкі, лаўрэатаў ды прызёраў фестываляў, — тыя стужкі, якія трымаюць узровень сусветнай культуры? (Прызнаюся, часам робім гэта... крутам-мутам). Натуральна, не за кожны паказ ёсць чым плаціць, але мы знаходзім магчымасці. Стужкам гэтым (часам) шмат гадоў. Мы павінны былі б паказаць іх гадоў дзесяць таму, — але не думаю, што, паглядзеўшы сёння іх па БТ, заўтра хтосьці возьмецца даводзіць пра ўзрост мастацтва. Улічваючы, што ў кіназалах з кожных ста месцаў занята толькі сем. Але я ніколі не пушчу "Шырлі-Мырлі" ў 19 гадзін па нацыянальным канале: у мяне ёсць сумленне і пазіцыя. На сусветныя тэледачыненні беларусы не пойдуць з экранным матам або з наборам забавак, кшталту "з'ешце гэты абед за тры хвіліны і кішэнны тэлевізар ваш".

**— Наш экран неадназначны па кінапраявах. З'яўляюцца выдатныя работы, кшталту "Аазіса" Хашчавацкага й Сямашкі, але гэтыя аазісы — спаміж "Нянавісцю. Дзяцьмі хлусні", — апошнія, на маю думку, не маюць дачынення да мастацтва...**

— Не варта, напэўна, катэгарычна настойваць на антымастацкасці чагосьці. Час засведчыў: можна і памыліцца. Не думаю, праўда, што "Нянавісць..." або "Смяротны грэх" трапяць у залаты фонд кінамастацтва, але, мовім так, забіваючы гэтыя цвікі, можна па пальцах стукнуць. Тэлебачанне ў нас — нацыянальнае, аўдыторыя велізарная, і калі доўжыць цвіковае параўнанне, дык відавочна, што аднаму цвіку хопіць аднаго ўдару, каб схавацца па самую плешку, а ёсць цвік-трохсотка, па якім трэба добра гвазданууць. Мы ж вымушаны гваздаць... перапрашаю, працаваць у межах аднаго канала. І на ім прадстаўляць усё.

**— Тэлебачанне вінавацяць у заангажаванасці. У тым, што ім наўпрост кіруюць з прэзідэнцкага кабінета...**

— Калісьці, за шчаслівейшым для тэле часам, я кіраваў ім на меншай пасадзе. На стале стаялі тры тэлефоны. Надаралася скрутная сітуацыя. Званілі з Вярхоўнага Савета, ад прэм'ер-міністра і з ЦК партыі. Кожны бараніў сваё. Сябе. Сёння ёсць чалавек, які кіруе дзяржавай, Беларуссю і натуральна, ягоныя каманды або загады мусяць выконвацца прадстаўнікамі ўлады. Не будзем высвятляць, ці ж з'яўляемся сёння мы і вы, тэлебачанне і прэса, чацвёртай уладай, бо ўлада мусіць мець закон. Закона пра тэлебачанне яшчэ няма, няма — і мы не пры ўладзе, не ўладарныя! Толькі закон мог бы нам дапамагчы, вызначыўшы, на што мы маем і на што не маем права. Нашы межы, рамкі і да іх падобнае. Я пацікавіўся ў англійскіх калег падчас лонданскай камандзіроўкі, як прадстаўніку зялёных або чырвоных выйсці ў эфір (возьмем самую папулярную сітуацыю). Усё пэўна раскладзена й вызначана: мае права на выйсце ў эфір прадстаўнік бальшыні (кіруючай) ды апазіцыі. Трэцяму даюць слова, калі згодна тэлебачанне (перад усімі), бальшыня ды апазіцыя. Мяркуецца, што гэта і ёсць — свабода. Проста так, проста з моста права на эфір атрымаць няможна. Магчыма, гэта і ёсць дэмакратыя?

**— Што можна сказаць пра суаднесенасць рускамоўных і беларускамоўных перадач?**

— Ніякіх забарон ды абмежаванняў на нацыянальную мову нацыянальнае тэлебачанне не мае. Натуральна, некаторыя нашы намаганні па дубляжы можна назваць смешнымі (ну як знайсці адпаведнік Віні-Пуха? Чым замяніць голас, які ўтварае вобраз фільма нароўні з выявай?) Выхоўваць у моўным рэжыме трэба не мяне, а чалавекаў трох-пяці гадоў. Стварыць асяродак? А як? Мусім быць гнуткімі. Зрэшты, больш зважаць на асобу ў кадры — як думае, як гаворыць, да якой ступені сам — з'ява. Калі для інтэлігенцыі гутарка з Лявонам Баршчэўскім як з перакладчыкам Дзюрэнмата цікавая да неабходнасці, дык найшырокай аўдыторыі Баршчэўскі-палітык цікавей. А на адзіным канале чалавек, асабліва сямейнік, можа вылучыць хіба гадзіну-дзве на тэлевізар, звычайна з 19 да 22, — тады, калі ля экрана ўся сям'я, ад бабулі да ўнучыка. Працаваць для ўсіх адразу? Або гэта кавалак, па чвэртцы гадзіны, аддаць кожнаму па інтарэсах?

**— Ну і як вырашылі вы на БТ?**

— Мяркуем, што патрэбны другі нацыянальны канал. І абавязкова — дзяржаўны.

**З Уладзімірам КУПРЫЕНКАМ**
**гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P. S.** Выконваючы прапанову Уладзіміра Купрыенкі, рыхтуем матэрыял з умоўнаю назваю "Тэлебачанне і эканоміка", каб уведаць з дасведчаных крыніц, колькі каштуе і футбол, і фільм Феліні...



ішоў, як Гагарын па дывановай дарожцы. Праз некалькі хвілін Ксюша супакоілася і я нарэшце не вытрымаў.

— Дачушка, адкуль ты гэта ўсё ўзяла?

— Гэта бабуля дзядзьку так казала, — абыякава адказала яна.

Раніцай, калі мы далучыліся да групы ад'язджаючых, што збіраліся ля аўтобуса, я адчуў, што поле павышанай напружанасці вакол мяне некуды знікла. Мужчыны падыходзілі, віталіся за руку, жартавалі, даючы зразумець, што я, маўляў, хлопец у дошку свой, хаця і шызануты крыху. Ну, дык прафесія такая.

Пазней, калі кругаверць будняў рассеяла нязначныя ўспаміны і выпадковыя ўражанні адпачынку, у цішыні майстэрні мае думкі зноў вярнуліся да пярфокусаў. Звычайныя пёры, вызваліўшыся ў малюнках ад сваёй матэрыяльнай плоці і ўтылітарнага прызначэння, набылі псіхалагічныя індывідуальнасці і разнастайныя ўзаемасувязі, утварыўшы такім чынам свой, паралельны нашаму свет. Нам, людзям, цяжка і да канца, можа, нават немагчыма зразумець законы яго існавання, дзе адсутнічае рацыяналізм адносін, звыклыя атрыбуты матэрыяльнай забяспечанасці. Тут пануюць пачуцці вечныя і імгненныя, няма галечы і сытасці, іерархічнай лесвіцы ўлады і войнаў, няма грошай і ўсяго таго, што нараджае зайздрасць, злосць, хлусню. Таму адценні высакамернасці, агрэсіўнасці, хітрасці, якія часам уласцівыя вобразам пярфокусаў, — не больш чым гульня, жарт, тэатральнае дзеянне. Затое шчырасць і дабрыня адносін паміж імі — сапраўдныя, непадробныя, як само жыццё.

Так, падбіраючы адпаведна задумцы фарбы, паперу, тэхнічны прыём, былі створаны кампазіцыі "Танец пярфокусаў", "Гульня", "Завіруха" і іншыя. Некаторыя работы, пабываўшы на выставах, знайшлі сваё пастаяннае месца ў грамадскіх інтэр'ерах і прыватных калекцыях. Цікава, аб чым яны "гутараць" са сваімі новымі гаспадарамі?

**Уладзімір РЫНКЕВІЧ**

Віншуем!

# ЗАКАХАНЫ Ў СЛОВА

## Уладзіміру ЮРЭВІЧУ — 80

Рэдка чый-небудзь жыццяпіс чытаецца гэтак цікава, як аўтабіяграфія Уладзіміра Юрэвіча "Паспяшаючы за часам", змешчаная ў кнізе "Вытокі песні" і ў якой прадстаўлены аналагічныя матэрыялы яшчэ многіх і многіх беларускіх пісьменнікаў. Быццам старонкі прозы перагортваеш. Насычанай жывапісам слова, багатай на назіранні і абагульненні, прасякнутай любасцю да роднай мовы, бацькоўскай зямлі. А перадусім — любові да літаратуры, прыгожага пісьменства. Нездарма адзін з раздзелаў гэтай споведзі "Пра час і пра сябе" і называецца "Культ кнігі, культ слова, культ Купалы". А пачатак гэтаму захапленню — у маленстве.



Уладзімір Міхайлавіч прызнаецца: "Кнігі былі найбагацейшым скарбам у нашай сям'і (сям'і настаўнікаў, — **А. М.**). Іх шанавалі больш, чым вопратку і мэблю. І калі пераязджалі з аднаго месца ў другое, дык самы большы клопат быў на захаванасць кніг. Бібліятэка, што засталася нам ад дзеда, мела некалькі тысяч кніг самых розных гадоў выдання — ад пятроўскага часу і да дзён рэвалюцыі. Была амаль уся руская класіка, амаль усё, што выдавалася на беларускай мове, былі ў арыгінале польскія кнігі Г. Сянкевіча, Ю. Крашэўскага, камплекты "Современника", "Полярной звезды", "Русского богатства" за многія гады. І яшчэ — педагагічная, агранамічная, медыцынская літаратура".

Зразумела, што хлапчук вельмі рана, прытым "сам па сабе", навучыўся чытаць". А таму — паслухаем аповед У. Юрэвіча далей: "Калі мінула мне сем гадоў і я па закону павінен быў пайсці ў школу, мне заставалася, можа, скончыць адзін чацвёрты клас. Але гады не выходзілі, і таму я застаўся дома сярод кніг і чытаў, чытаў..."

Культ кнігі спалучаўся з культам слова. У сям'і "беларуская і руская мовы гучалі аднолькава часта, але заўсёды ці толькі беларуская ці толькі руская. Бацькі сачылі за жывым словам, за яго культурай. Калі да іх звярталіся па-беларуску, гаворка ішла на роднай мове. І гэта было штодзень. Калі ж прыязджаў хто ці завітваў які падарожнік-бежанец і пачынаў гаворку па-руску — тады было толькі рускае слова, вызыскоўна чыстае. Правільна акцэнтаванае".

А яшчэ быў ці не самы важны культ — культ Купалы. Пашанцавала хлапчуку, яшчэ як пашанцавала! Яго маці ў свой час вучылася ў Бяларуцкім народным вучылішчы ў адным класе з Янкам Луцэвічам, будучым народным песняром. Яна ведала на памяць шмат Купалавых вершаў, вядома ж, былі ў хатняй бібліятэцы і яго кнігі, якія таксама адразу станавіліся для хлапчука "сваімі".

Праўда, хутка прыйшло яшчэ адно захапленне, як кажуць, у духу свайго часу. Калі ў вёсцы з'явілася радыё, У. Юрэвіч праседжваў "з навушнікамі цэлымі вечарамі, услухоўваючыся ў галасы мінскіх дыктараў, артыстаў". Любоў да тэхнікі выспеліла жаданне пайсці вучыцца ў Мінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. А перад гэтым была вучоба ў Мінскай І-й сямігадовай школе, наведванне з братам, які працаваў дыктарам радыё, Дома пісьменніка, знаёмства з многімі літаратарамі... Таму, калі на радыё аб'явілі чарговы конкурс на замяшчэнне пасады дыктара, другакурснік У. Юрэвіч вырашыў прыняць у ім удзел. І... выйшаў пераможцам.

Дзень 26 верасня 1932 года запомніўся назаўсёды. Тады ён упершыню прамовіў ля мікрафона "Гаворыць Мінск", і словы гэтыя пачулі ва ўсіх кутках рэспублікі. У той жа аўтабіяграфіі Уладзімір Міхайлавіч прызнаецца: "Гады працы на радыё — гэта той універсітэт, які даў мне багата ведаў па самых розных галінах, узбагаціў мяне эстэтычна, выхаваў этычна". "Курсы" яго праходзіў паступова. І таксама не без сумненняў. Думалася нават і пра іншую, больш "пэўную" прафесію — хацеў стаць архітэктарам, паступіў на будаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Але, будучы ўжо на чацвёртым курсе, усё ж пачаў наведваць лекцыі на філфаку універсітэта (дазволу адначасова займацца ў дзвюх вышэйшых навучальных установах не атрымаў).

Дыплом аб заканчэнні політэхнічнага абараніў на другі дзень вайны. Яна, можна сказаць, і канкрэтызавала творчы ды і жыццёвы лёс У. Юрэвіча. У 1942 годзе пачаў працаваць у Маскве на радыёстанцыі "Савецкая Беларусь". І не проста выходзіў у эфір, а і выступаў з публіцыстычнымі каментарыямі да паведамленняў ваенных карэспандэнтаў аб барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, рыхтаваў літаратурна-музычныя кампазіцыі. Тым самым радыёжурналістыка стала прызваннем, а лёс свой Уладзімір Міхайлавіч надоўга звязаў з радыё — з 1948 па 1951 год загадваў аддзелам літаратурна-драматычнага вяшчання, а ў 1952—1954 гадах быў галоўным рэдактарам мастацкага радыёвяшчання.

Праца на радыё, тым больш у такой рэдакцыі, не магла не заахвоціць на ўласную літаратурную творчасць. Як успамінае Уладзімір Міхайлавіч, яго "першым... грунтоўным выступленнем у друку" стала рэцэнзія на кнігу "Пушкін-крытык", змешчаная ў часопісе "Полымя" ў 1952 годзе, хоць друкавацца пачаў з 1949 года.

Рэцэнзія за рэцэнзіяй, артыкул за артыкулам і пастпова набралася матэрыялаў на першую кнігу "Слова і вобраз", што выйшла ў 1961 годзе. На гэты час У. Юрэвіч працаваў ужо адказным сакратаром часопіса "Маладосць", паспеўшы пабыць пяць гадоў уласным карэспандэнтам "Литературной газеты" па Беларусі.

Пазней давялося яму быць і дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы, і палітычным аглядальнікам Беларускага тэлебачання, і рэдактарам аддзела, членам рэдкалегіі часопіса "Коммунист Белоруссии", і літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў, а з 1985 года да нядаўняга часу працаваў адказным сакратаром Камітэта па Дзяржаўных прэміях Беларусі. Якую б пасаду ні займаў, знаходзіў час, каб займацца літаратурна-крытычнай, даследчыцкай дзейнасцю. Рэцэнзіі, артыкулы У. Юрэвіча рэгулярна змяшчаюцца ў рэспубліканскай перыёдыцы, лепшыя з іх склалі кнігі "Шматгалоссе жыцця" (1965), "Погляд" (1974), "Абрысы" (1976), "Янка Купала: Нарыс жыцця і творчасці" (1983), "Выбранае".

Уладзіміо Міхайлавіч не проста выказвае свае думкі — аргументаваныя пра той ці іншы твор, не проста патрабавальна асэнсоўвае яго, а, як заззвычай, глядзіць на творчы працэс у яго адзінстве, кідаючы позірк і на творы іншых літаратур. А яшчэ ў лепшых сваіх артыкулах ён глядзіць і ў перспектыву. Зразумела, самой літаратуры, але нязменна адштурхоўваючыся пры гэтым ад канкрэтнага твора, ад здзейсненага пэўным пісьменнікам. Яскравы прыклад таму — артыкул "Першапачатак народнага подзвігу", што з'явіўся ў свой час як водгук на раман І. Чыгрынава "Плач перапёлкі". Уладзімір Міхайлавіч стаў першым, хто надзіва высока ацаніў мастакоўскія задаткі І. Чыгрынава ў новым для яго жанры. І, як сёння відочна, не памыліўся. А наколькі ўзважанае яго слова пры разглядзе творчасці І. Шамякіна, І. Мележа, Я. Брыля, І. Навуменкі, Б. Сачанкі?! Як умее адчуць ён адметнасць творцы?! А яшчэ звяртае вялікую ўвагу і на моўнае майстэрства таго ці іншага пісьменніка. а гэтыя аспекты, будзем справядлівымі, часам крытыкамі абыходзяцца, лічацца быццам дагаснымі.

Даўняя ж закаханасць У. Юрэвіча ў родную мову знайшла ўвасабленне ў спецыяльнай перадачы для школьнікаў — радыёклубе "Жывое слова", нязменны вядучы якога Уладзімір Міхайлавіч — з 1963 года. І з іх, гэтых перадач, нарадзілася цудоўная кніга "Слова жывое, роднае, гаваркое...", адзначаная Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Ды і кнігі, напісаныя У. Юрэвічам для маленькіх ("Дзе начуе сонца" (1970), "Дождж ык на колах" (1977), "Нястрашны страх" (1986), не ў апошнюю чаргу вабныя тым, што прывіваюць дзецям любоў да слова — мова ж твораў жывая, гутарковая.

80 гадоў — узрост, калі хочаш таго ці не, а трэба азірнуцца назад, каб высветліць, ці так жыў, ці працаваў як трэба, каб падвесці і творчыя рахункі... Што ж, У. Юрэвічу не трэба ў нечым сумнявацца. Яго жыццё ішло годна і сумленна, а напісанае вартае таго, каб да яго праяўлялі цікавасць і новыя чытачы.

Застаецца пажадаць Уладзіміру Міхайлавічу доўгіх вёсен і ўпэўненага пяра!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## КАБ НЕ СТАЯЛА ХАТА З КРАЮ...

**Імя беларускага крытыка, публіцыста, паэта Паўла Каравайчыка (15 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня яго нараджэння) было вернута з небыцця дзякуючы гісторыку В. Скалабану. Прынамсі, у зборніку "Дзень паэзіі-82" ён выступіў з артыкулам "Будынак новы мы будуем...", у якім расказаў пра жыццёвы і творчы шлях гэтага адраджэнца.**

**І як таго вымагаў профіль выдання, былі змешчаны два вершы Паўла Гіляравіча. Першы "Ламайце згніўшае!" у свой час быў надрукаваны ў газеце "Дзянніца" (16 студзеня 1919 года). Другі, "Memento mori", упершыню пабачыў свет у часопісе "Вольны сцяг" (1921, N 3/5, 15 кастрычніка). Што да гэтага верша, дык ёсць у ім думкі, што не страцілі сваёй актуальнасці і сёння, яны набываюць нават яшчэ больш глыбокі сэнс:**

**Так не можна: "Хата з краю**
**Ад ўсяго мая стаіць,**
**Дык нікога знаць не знаю,**
**Як паблізасці канае**
**Мой сусед". Як думка тая**
**Возьме верх — не будзем жыць.**

**І на самай справе, ці не напрашваецца яшчэ абыякавасць многіх да таго, што робіцца наўкола, а ў выніку...**

**П. Каравайчык, нягледзячы на свой кароткі век — яго не стала 21 лістапада 1937 года — акурат і імкнуўся не заставацца ўбаку ад палітычных падзей, трымаючы ў сваёй паўсядзённай дзейнасці яскрава выражаны адраджэнскі кірунак.**

**А нарадзіўся ён у мястэчку Любча (цяпер Навагрудскі раён). У 1916 годзе з залатым медалём скончыў гімназію. Вучыўся ў Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Пецярбурзе, але з-за цяжкага матэрыяльнага становішча перабраўся ў Маскву, стаў студэнтам трэцяга курса медыцынскага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Ды зноў давялося перарваць вучобу — з 1919 па 1921 год служыць у Чырвонай Арміі. Вышэйшую адукацыю атрымаў толькі ў 1925 годзе пасля заканчэння медыцынскага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

**Пачатак літаратурнай дзейнасці П. Каравайчыка адносіцца да 1917 года. Тады ён вярнуўся з Масквы ў Мінск (у сувязі з першай сусветнай вайной Мінская гімназія, у якой вучыўся Павел Гіляравіч, была эвакуіравана ў Маскву) і пачаў працаваць у рэдакцыі газеты "Вольная Беларусь", у якой спачатку выступіў з рэцэнзіяй на пастаноўку ў Мінску спектакля па драме Я. Купалы "Раскіданае гняздо". Затым П. Карвайчык з'яўляўся загадчыкам выдавецкага аддзела Белнацкама, а з восені 1922 да канца 1926 загадваў аддзелам замежнага друку (ведаў некалькі моў) газеты "Савецкая Беларусь".**

**Гэта быў чалавек па-сапраўднаму ўлюбёны ва ўсё беларускае. Аб тым, наколькі П. Каравайчык правільна арыентаваўся ў літаратуры, сведчыць ужо тое, што ён выступіў з рэцэнзіямі на кнігі "Матчын дар" А. Гаруна, "Спадчына" Я. Купалы, "Творы" М. Багдановіча. Разам з М. Гарэцкім і У. Дзяржынскім падрыхтаваў так званыя "Выпісы з беларускае літаратуры".**

**Нямала зрабіў Павел Гіляравіч і дзеля таго, каб беларуская мова атрымлівала ўсё больш шырокі ўжытак. У прыватнасці, у красавіку 1924 года ён быў сярод тых, хто заснаваў медыцынскую секцыю пры Інстытуце беларускай культуры. Прымаў чынны ўдзел у распрацоўцы медыцынскай тэрміналогіі.**

**Безумоўна, не мог не трапіць у поле зроку рэпрэсіўных органаў. П. Карвайчыка арыштавалі, а 10 красавіка 1931 года асудзілі на 5 гадоў высылкі ў Чабаксары. Там ён працаваў урачом і чакаў вызвалення. Але літаральна за дзень да гэтага яго зноў арыштавалі і прысудзілі да расстрэлу.**

**А. М.**

## З ЛЮБОЎЮ ДА ПАЛЕССЯ

**Споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння беларускага і польскага этнографа і фальклырыста Часлава Пяткевіча (памёр 10 кастрычніка 1936 года). Родам з вёскі Бабчын цяперашняга Хойніцкага раёна.**

**Адукацыю атрымаў у хатніх умовах. Некаторы час быў рознарабочым на Палессі, працаваў аканомам на Украіне. З 1923 года жыў у Варшаве, супрацоўнічаў з аддзелам этналогіі Інстытута антрапалагічных і этналагічных навук Варшаўскага навуковага таварыства, а праз пяць гадоў пераехаў у Кракаў, далучыўся да спраў этнаграфічнай камісіі Акадэміі ведаў.**

**Часлаў Пяткевіч даследаваў матэрыяльную і духоўную культуру беларускага Палесся. Аўтар прац "Рэчыцкае Палессе. Этнаграфічныя матэрыялы.**

**Ч. І. Матэрыяльная культура" (1928), "Духоўная культура Рэчыцкага Палесся. Этнаграфічныя матэрыялы" (1938).**

**Ч. Пяткевічам быў напісаны і трэці, абагульняючы том, што тычыцца народнай культуры Палесся, але, на жаль, рукапіс загінуў у час другой сусветнай вайны.**

**Ч. Пяткевіч да ўсяго падрыхтаваў да друку 4 том знакамітага "Люду беларускага" М. Федароўскага.**

# НОРМА — ВЕРНАСЦЬ КАРАНЯМ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

з'явы паказальныя. На першы людзі ішлі па закліку сэрца, ігнаруючы застрашванні і пагрозы афіцыйных уладаў, а на другі звозіліся па разнарадцы з усёй Беларусі.

Вы, шаноўны Сямён Георгіевіч, мабыць, запыніліся вокам на здымку, што друкаваўся ў некалькіх газетах, дзе на пярэднім плане пад шыльдай "Новогрудский район" стаіць гурт абыякавых да ўсяго людзей, якім карціць адно: хутчэй пазбыцца адбывалаўкі і паехаць дахаты.

Не ведаю, як Вам, а мне сорамна было глядзець на нашчадкаў тых, хто ў міжваенны перыяд самаахвярна змагаўся за сваю беларускую годнасць, за правa "людзьмі звацца", мець школу на беларускай мове, а калі шырэй — за незалежную беларускую дзяржаву. Тыя — змагаліся, гэтыя — атупела маўчаць. Гэта — у лепшым выпадку. У горшым — займаюцца самаплюйствам. Што і казаць: камуністычная прапаганда, сарыентаваная на пэўную дэнацыяналізацыю, тэорыя і практыка не толькі моцна ўеліся, але і пераелі дашчэнту беларускія сэрцы і душы.

Згадаю такі факт. Напярэдадні рэферэндуму я трапіў у роднае Пабрэззе. Апрача іншага, хацеў даведацца пра людскія настроі па важным, нават балючым для мяне пытанні — мове. Ды гаварыць пра гэта амаль няма з кім. Жанчыны і раней, пры паляках, не вызначаліся асаблівай актыўнасцю, а мужчын засталося — на пяць двароў адзін, дый тыя, за рэдкім выключэннем, спітыя, дэградаваныя, у якіх адзін клопат: абы затуманіць галаву. Пра сімволіку — і старую, і новую, — уяўлення ніякага, хіба што чыста рабскае: калі ўласці кажуць памяняць — значыць, так трэба. А пра мову нехта пусціў чуткі, што нібыта свая нам дорага абыходзіцца, дык трэба памяняць на рускую, бо Расія нам за гэта заплаціць, ды яшчэ і прыплаціць, і таму станем жыць лепш. "Дый на храна тая мова здалася, — абураецца мой равеснік, з якім колісь сябравалі, а ягоны бацька належаў да Грамады і КПЗБ, вёў у той час зацятае змаганне за беларускасць. — Калі ў мяне будуць грошы ў кішэні, дык я і без усякай мовы абыдуся, рукою на прылавак пакажу, якую бутэльку падаць..."

Вось такі ўзровень маралі і свядомасці! Дык няўжо ж усім нам, і Вярхоўнаму Савету ў асаблівасці, арыентавацца на такіх няшчасных, псіхічна і маральна хворых людзей?! Ці ўсё ж паспрабаваць вызначыць арыенціры, кіруючыся не сваімі, навязанымі нам за стагоддзі паднявольнага існавання крытэрыямі, а агульначалавечым цывілізаваным вопытам, вопытам народаў, якія ладзяць у сваіх дзяржавах годнае жыццё, свята шануюць тое, што засталося ім у спадчыну ад продкаў?!

Вярхоўным Саветам, паўтаруся, павінна быць прынята праграма нацыянальнага Адраджэння, духоўнага і фізічнага аздараўлення народа. Пакуль што дзяржава яго не ратуе, а дэградуе. Паглядзіце, якое мора спакусы, гарэлкі розных гатункаў плешчацца вакол нас, зазірніце ў кнігарні, колькасць якіх змяншаецца на вачах, а ў тых, што ацалелі, усё запаланіла брыдотная літаратура на рускай мове, якая выступае тут у ролі своеасаблівага наркотыку. А дзе беларуская кніга? Яе, кажуць, з'еў рэферэндум. На яго спасылаецца, ім прыкрываецца ўсё зрусіфікаванае, ненавіснае да ўсяго беларускага чынавенства, настрашанае ў папярэднія гады, што давядзецца паварушыць мазгамі і вывучыць мову ці то сваёго, ці то іншага народа, на зямлі якога жыве і з чыйго стала корміцца. Але ў рэферэндуме, калі не махлявалі, ніякага страху для нацыянальнай культуры няма. Народ прагаласаваў за роўнасць беларускай і рускай моў. Дык што ў гэтым кепскага! Беларуская мова павінна быць роўнай, а не нейкай вышэйшай, не толькі з рускай, але і з усімі іншымі мовамі. Але ж дзяржаўнай у нас і па Канстытуцыі, і паводле Закона аб мовах была і застаецца беларуская. Дык давайце будзем не блазнаваць, не хлусіць, а праводзіць дзяржаўную палітыку, у тым ліку і ў пытаннях мовы! І каму ж, як не Вярхоўнаму Савету і ягонаму Старшыні, дбаць пра захаванне законнасці?! Каму ж, як не Вам, падаваць у гэтым асабісты прыклад?! На жаль, далей дэкларацый, прыгожых, не напоўненых рэальным практычным сэнсам слоў Вы не пайшлі. Кажаце, што не ведзяце пасяджэнняў па-беларуску таму, што пераважная большасць дэпутатаў пакуль што родную мову не засвоіла і выступае на рускай. А таму, маўляў, калі Старшыня гаворыць на адной мове, а дэпутаты — на другой, могуць быць непаразуменні. Для нашай сітуацыі такія апраўданні выглядаюць проста смешнымі, нават для гэтых самых вашых калег-дэпутатаў абразлівымі, бо няўжо, жывучы ў Беларусі, яны па сваім інтэлектуальным узроўні не здолелі хаця б на ўзроўні разумення сэнсу асвоіць, добра валодаючы рускай, братнюю, роднасную беларускую мову! Усе ж разумелі, і не здаралася ніводнага выпадку няўцямнасці, Вашых папярэднікаў — Станіслава Шушкевіча і Мечыслава Грыба. Ці інтэлект гэтага складу Вярхоўнага Савета значна ніжэйшы за папярэдні? Не верыцца!

А калі спасылацца на волевыяўленне народа ў яго практычных выніках, дык, шаноўныя дэпутаты, забяспечце гэтую роўнасць моў. І не толькі каб, як заклікаеце Вы, шаноўны Сямён Георгіевіч, кожны чыноўнік ведаў абедзве мовы, але і кожны грамадзянін меў свабоду выбару, каб чалавеку было з чаго выбіраць у самых розных дзялянках жыццядзейнасці, скажам, пры паступленні ў спецыяльныя і сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія ў нас пакуль амаль спрэс вядуць выкладанне на рускай мове. Вось вам і роўнасць!.. І так амаль паўсюль. Вазьміце, напрыклад, тэлебачанне, якое чамусьці называецца нацыянальным. Калі не ўключыш — гучыць руская мова. Дык навошта тады яго глядзець, ці не лепш расійскае, дзе і ўзровень перадач не такі шэры, і руская мова не такая бедная, кастрыбатая. А быў жа час, калі пад старшынствам Генадзя Бураўкіна яшчэ ў старыя камуністычныя часы Беларускае тэлебачанне набірала і прыстойны еўрапейскі ўзровень, і сваё сапраўднае нацыянальнае аблічча. Але сёння там вядуць рэй іншыя людзі і іншых дамагаюцца вынікаў. Не толькі на тэлебачанні. Нядаўна зацверджаны новы рэдактар БелЭН, сам па сабе нібыта і някепскі хлопец Генадзь Пашкоў, які ў свой час прайшоў добрую вывучку ў апараце ЦК КПБ. Гэта, падмацаванае дагодлівымі для сучаснай улады выступленнямі (асабліва напярэдадні рэферэндуму), і сталася "важкай" прычынай для назначэння мала каму вядомага шэраговага літаратара на такую высокую аўтарытэтную пасаду, якую ў свой час асягнулі народныя пісьменнікі Беларусі Пятрусь Броўка і Іван Шамякін, а потым Міхась Ткачоў і Барыс Сачанка — людзі новага складу мыслення, энцыклапедысты па сваёй сутнасці, па шырыні кругагляду і глыбіні ведаў па нацыянальнай гісторыі, культуры, мове, літаратуры. Яны здолелі захаваць вопытныя кадры, падмацаваць новымі, прыцягнуць да працы лепшых беларускіх навукоўцаў, што дало магчымасць прыступіць да стварэння такіх грунтоўных выданняў, як шматтомная "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" і "Энцыклапедыя Беларусі". Ставілася задача аб'ектыўна, выходзячы не з імперскіх інтарэсаў заваёўнікаў, а сваіх уласных, беларускіх, паказаць шлях народа праз вякі на такім узроўні фактычнай аргументаванасці і навуковай пераканаўчасці выкладу, каб гэтыя выданні былі актуальнымі не толькі з гледзішча палітычнай кан'юнктуры, але на вякі і служылі крыніцамі інфармацыі нам, нашым дзецям, унукам і праўнукам. Аднак прыход порсткага галоўнага рэдактара адразу прывёў да змены курсу, да павароту да састарэлых ідэалагічных схем, добра засвоеных Г. Пашковым на цэкоўскай працы, а пазней, ужо ў апошні час, на пасадзе галоўнага рэдактара партыйнай газеты "Центральная". З такім багажом, з такімі вузка дагматычнымі падыходамі і меркамі агульнанацыянальнай энцыклапедыі не створыш. Логіка жыцця такая: сённяшнія ўлады не вечныя і з часам на дзяржаўны Алімп падымуцца новыя людзі, і тады зноў давядзецца пісаць і выдаваць новыя энцыклапедыі, народнымі сродкамі аплачваючы змарнаваныя, якія цяпер так патрэбны збяднеламу, згаладнеламу, абабранаму да ніткі беларускаму люду! Але на гэта, як і на змену сімволікі, кажучы словамі Прэзідэнта напярэдадні рэферэндуму, грошы заўсёды знойдуцца!..

Мяркую, што ў нас надзвычай востра паўстала праблема дзяржаўнай кадравай палітыкі, і яе трэба неадкладна паставіць на шырокае абмеркаванне ў Вярхоўным Савеце. Ды ці дачакаемся, бо пакуль што назіраецца ў гэтым амаль поўная абыякавасць: што прапануе выканаўчая ўлада — тое вышэйшы заканадаўчы орган паслухмяна і зацвярджае. Нават не ўнікаючы, адпавядае вылучаная кандыдатура па сваім інтэлекце і маральна-духоўным узроўні высокай пасадзе. Таму і не дзіва, што асобныя высокапасадныя службовыя асобы могуць сказаць такое, ад чаго і ў простага чалавека вушы вянуць...

Узнікае правамернае пытанне: ці можа называцца прафесійным Вярхоўны Савет, які не вызначаецца прафесіяналізмам у вызначэнні і вырашэнні кадравай палітыкі дзяржавы? Пытанне, бадай, рытарычнае, бо наколькі згубная такая бесхрыбетная анемічная пазіцыя — наш парламент здолеў адчуць не толькі ў пераносным, але і ў літаральным сэнсе на ўласнай скуры. Дастаткова згадаць, як збівалі спецназаўцы ў сценах Вярхоўнага Савета дэпутатаў апазіцыі папярэдняга склікання, як прадстаўнікі сілавых структур нахабна парушаюць правы дэпутатаў гэтага склікання. Вы скажаце: не ўсіх, а толькі тых, хто вядзе сябе задзірыста, знаходзячыся ў апазіцыі да цяперашняй улады, бо ўсе астатнія спакойна карыстаюць з прызначаных самімі сабе льготаў і жывуць прыпяваючы, мала клапоцячыся пра свой гаротны народ. Гэта сапраўды так, але і не зусім так. Думаю, што адчуванне дыскамфорту, знявагі і злосці ўласціва многім дэпутатам — і камуністам, і аграрнікам, і дэмакратам, і згодацам. Бо хіба ж не адкрыта зняважлівай да ўсіх і асабіста да Вас, спадар Старшыня, з'яўляецца пазіцыя кіраўніка Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рыгора Кісяля, які ну проста з выклікам здзекліва ставіцца да ўсіх заклікаў і пастаноў Вярхоўнага Савета даць дэпутатам эфірны час, пазбавіць электронныя СМІ манапалізацыі!..

Сёння туды дапускаюцца толькі людзі адной арыентацыі, адной, нярэдка непрыхавана варожай да беларушчыны, тэндэнцыі. Іншым, хто за Беларусь, а такіх нямала, нібы на раток павесілі замок. Але народ не знямеў і не змоўк: веснавыя падзеі паказалі, што беларусы, як і ў іншыя адказныя моманты свайго драматычнага гістарычнага быцця, не сталі на калені і гатовы весці змаганне за волю, дэмакратыю, нацыянальную годнасць, за гордую і незалежную Беларусь.

Аднак фізічнае змаганне, калі, барані, Божа, да яго дойдзе — гэта крайні, апошні і ў аснове сваёй разбуральны матыў у жыцці нацыі. Вы ж падчас нашых сустрэч падкрэслівалі, і я з гэтым пагаджаўся, што трэба арыентавацца не на разбурэнне, а на стварэнне, на спакойнае, мірнае і ўраўнаважанае развіццё. Але для гэтага павінны быць створаны адпаведныя ўмовы, дасягнута грамадская згода па найбольш важных, кардынальных момантах існавання народа, без захавання якіх ён, уласна кажучы, перастае быць народам, а, значыць, яго быццё страчвае перспектыву і гістарычны сэнс. Такімі момантамі з'яўляюцца: суверэнітэт, самастойная, нацыянальна сарыентаваная, палітыка, пашана да створаных народам на працягу яго развіцця духоўных каштоўнасцяў: мовы, культуры, нацыянальных сімвалаў і г. д. Вернасць сваім караням, сваёй духоўнай спадчыне — не правая, як гэта цяпер скрозь прапагандуецца, экстрэмізму і нацыяналізму, а норма цывілізаванага жыцця усіх народаў зямлі. Калі мы хочам, каб Беларусь і яе народ у свеце паважалі і шанавалі, гэтая норма павінна стаць правілам і для нас. Аднак на практыцы, у дзяржаўнай палітыцы атрымліваецца зусім інакш. Апошнім часам сваё, роднае, беларускае апынулася пад такім цяжкім дзяржаўным уціскам, пад які яно трапляла хіба што пасля падаўлення Мураўёвым-вешальнікам, якога сёння імкнуцца ўзняць на шчыт у якасці амаль што нацыянальнага героя, паўстання Кастуся Каліноўскага...

У якасці прыкладу можна спаслацца і на наш раён, у прыватнасці на сам Навагрудак. Там, як вядома, дзейнічае некалькі сярэдніх школ. Пры камуністах яны ўсе былі рускімі. Калі ж Беларусь здабыла незалежнасць і пачалося, хоць і са скрыпам, нацыянальнае адраджэнне, усе школы без праблем і, як мне паведамлялі, без нараканняў, а тым больш без пратэсту, з боку бацькоў і дзяцей, перайшлі на родную мову навучання і выхавання, пры гэтым, як і належыць у цывілізаваным грамадстве, былі пакінуты класы для дзяцей нацыянальных меншасцяў — рускіх і палякаў. Напэўна, каб знайшліся ахвочыя, такія б класы былі б адкрыты для яўрэяў і ўсіх іншых...

Але вось адбыўся рэферэндум, які, як зазначалася, сам па сабе ніякай пагрозы для культуры карэннага насельніцтва не нёс. Аднак антыбеларускія сілы здолелі падаць яго вынікі як голас народа супраць самога сябе, як своеасаблівае духоўнае самазабойства, і пачалі актыўна праводзіць русіфікацыю, ігнаруючы Канстытуцыю і Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Такім чынам у Навагрудку з сямі школ статус беларускай удалося адстаяць толькі ў адной, пятай.

Задамо сабе пытанне: чаму так атрымліваецца? Ды ўсё па той жа спрадвечнай завядзёнцы, якая цалкам вынікае з дзяржаўнай палітыкі: калі былі на нашай зямлі нямецкія акупанты — і палітыка была нямецкая, калі польскія — польская, і г. д. Ад гэтага нікуды не дзенешся, бо ўсе іншыя прычыны — дробныя, другасныя: толькі прадуманая дзяржаўная палітыка можа быць трывалым гарантам для паўнакроўнага духоўнага самавыяўлення нацыі. Пяць гадоў назад абазначыўся паварот да свайго, людзі паверылі ў гэта і інстынктыўна пацягнуліся да яго, бачачы і чуючы, як у вярхах уладары стараюцца і вельмі часта добра гавораць на роднай мове, шануюць сваё. Тое ж, дарэчы, было ў 20-я гады ў Савецкай Беларусі. Але і тады, і цяпер наступіў рэзкі спад: чынавенства, стараючыся патрапіць у лад кіраўніцтву дзяржавы, адразу, як ад чумы, адхлынула ад беларушчыны. А ў простага народа пачалі з'яўляцца апасенні, што скончыць іх дзіця беларускую школу, а потым з гэтай мовай не будзе яму куды дзецца, бо вышэйшая адукацыя, за рэдкімі выключэннямі, — паўсюль на рускай мове. А тут яшчэ і страх, што, чаго добрага, зноў, як у трыццатыя, пачнуць пад корань вынішчаць носьбітаў беларушчыны! Вось Вам і свабода волевыяўлення і выбару!..

*(Заканчэнне на стар. 15)*

Адам МІХНІК

# БЕЛАРУСКАЯ БАЛАДА

*Конраду БЯЛІНСКАМУ*

ДА ТЭМЫ студзеньскага паўстання польская літаратура звяртаецца часта і разглядае яе самым падрабязным чынам. Кожны з тых зваротаў — гэта заглыбленне ў горыч паразы, каб ушанаваць загінуўшых альбо пазбавіць іх ад пасмяротнай хвалы. Спрэчка аб студзеньскім паўстанні не з'яўляецца, аднак, спрэчкай гісторыкаў аб мінулым: уключаная ў цалкам сучасныя кантэксты, яна спрыяе вытлумачэнню менавіта сучасных праблем.

Чым было тое паўстанне? Якім бачыцца нашым сучаснікам? Ці было яно суцэльным фіяска польскай самаахвярнасці, як сцвярджалі кракаўскія "Станьчыцы"? Ці было фінальным доказам абсурднасці польскіх паўстанняў? Ці, можа, зыходным пунктам для пошуку новай, прымірэнчай арыентацыі? А, можа, у выніку таго паўстання нарадзілася новая, разумнейшая "польская ментальнасць"?

Так ці інакш — тая параза, асуджаная кансерватарамі, сталася трамплінам для роздуму над польскім лёсам.

Калі Ксаверы Прушыньскі і Станіслаў Стома — адзін у 1944 годзе, другі на дваццаць гадоў пазней — выступілі з апалогіяй маркграфства Вялікапольскага, цень пана з Хробна служыў ім фігурай для — па-рознаму, зрэшты, зразумелай — канцэпцыі прарасійскай арыентацыі. Калі кардынал Вышыньскі, у вядомай казані, прамоўленай у сотыя ўгодкі паўстання, палемізаваў са Стомам і аспрэчваў ягоны тэзіс аб "антырасіскім комплексе" палякаў, ён адстойваў значэнне незалежніцкага парыву і адкідваў ідэю згодніцтва з захопнікамі, што ўбівалася ў польскія галовы. Гэтаксама Павел Ясеніца ў "Дзвюх дарогах" абараняў палітычны розум паўстанцаў і аддаваў ім належнае, як спадкаемцам традыцый вальналюбства. Тое ж можна сказаць і пра манаграфію пра паўстанне, напісаную Стэфанам Кяневічам.

У некалькіх выдатных апавяданнях звяртаўся да гэтай тэмы Яраслаў Івашкевіч. Заўсёды гэта было для яго нагодай для паказу складанага вузла польска-расійска-ўкраінскіх адносін і для роздуму над трагічнай безнадзейнасцю невыкаранёнай прагі палякаў да незалежнасці. Іншае ва Уладыслава Тарлецкага — таго займалі праблемы паліцыі і правакацый і таямніцы падпольнага жыцця.

Нарэшце Тадэвуш Канвіцкі. Ягоныя два апавяданні пра студзеньскае паўстанне, напісаныя ў цалкам сучасным стылі польскага комплексу, — прачытаныя сёння ўспрымаюцца як прароцтва, перасцярога, а разам з тым і блаславенне ўсяму таму, што адбылося добрага ў Польшчы ў настуныя гады. Хто хоча зразумець генезіс, сэнс і маральную меру сённяшняй польскай моцы — няхай звернецца да тых апавяданняў Канвіцкага, які ў 1977 годзе, назіраючы за чаргою перад ювелірным магазінам, угледзеў вокам правідца час будучы... Той час, у якім яшчэ не ведаем, ці ёсць сэнс, аднак ведаем, што павінен быць.

Няхай таксама звернецца да сумленнейшай кніжкі Тадэвуша Канвіцкага, да "Календара і пясочнага гадзінніка". Няхай прачытае змешчаныя там фрагменты пра беларусаў, украінцаў, яўрэяў; няхай з пільнай увагай і павагай учытаецца ў пісьменніцкую клятву Канвіцкага, у ягонае прызнанне аб тым, як прысягнуў, што ніколі супраць іншапляменнікаў не скіруе свайго пяра.

Тая клятва Канвіцкага гаворыць не толькі пра яго незвычайнае месца ў нашай літаратуры, але і з'яўляецца таксама маральнай крыжавінай, пастаўленай польскай літаратуры. Хто таму прынцыпу здрадзіў — здаецца, гаворыць нам Тадэвуш Канвіцкі, — хто захоча ажывіць польскую ксенафобію, служыць сваім пяром маніі велічы, распальваць пісьменніцкім словам нянавісць паміж народамі, — той здратуе найкаштоўнейшыя вартасці польскай культуры і духоўнасці. Амінь.

Прыгадаем усімі чытаныя цудоўныя "Польскія размовы" Яраслава Марка Рымкевіча. І калі пра Канвіцкага і Рымкевіча, мяркую, чытаць неганебна, дык нікім не заўважана кніжка беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча "Сярэбраны яздок". Складаецца яна з трох навел. Дзеянне першай з іх тычыцца эпохі Уладыслава Ягайлы; тэмы астатніх — сучасныя. Яднае тыя навелы аповесць з часу студзеньскага паўстання пад назваю "Сярэбраны яздок". Так называецца і ўся кніжка.

Тры навелы гавораць аб трох — надзвычай розных момантах у жыцці беларускага народа. Галоўным героем першай з'яўляецца чалавек "тутэйшы"; другая апавядае пра беларускае "выкіроўванне на незалежнасць"; трэцяя — пра пошукі ў сённяшнім дні каранёў беларускай гістарычнай самасвядомасці.

Гэтая трэцяя навела — пра маладых беларусаў з Беласточчыны, якія адкрываюць скарбы беларускай культуры ў XVI стагоддзі — гэта заклік да сучасных беларусаў і заклік, скіраваны імі ж. Яновіч амаль што паказвае іх пальцам: тут ваша асяроддзе, тут іх шукайце, ратуйце сваю нацыянальную ідэнтычнасць, насуперак усяму будзьце сабою. Шмат у гэтым закліку недамоўленасцей. Не маючы магчымасці напісаць усю праўду аб сучаснасці, Сакрат Яновіч скіроўвае позірк да гісторыі. Ці ж не такі самы шлях абраў эстонскі пісьменнік Крос, ці літоўскі — Авіжус?

Герой першай навелы — Скроўба, разведчык войска Вялікага княства Літоўскага. Не надта разумее гэты просты беларус тыя канфлікты, што дзеюцца вакол, а ўласная яго нацыянальная свядомасць далёкая ад яснасці. Хто ён? Класічны "тутэйшы", жыхар краіны, заціснутай між бурнымі дзеямі моцных, свядомы сваёй адасобленасцю, хоць, можа, і не ўмее яе досыць выразна выказаць. Спрабуючы зразумець навакольны свет, думае сам сабе:

"Вяльможы з вяльможамі, як тыя польскія паны, жонак сабе сілай не выбіраюць, слаць пасцелі не прымушаюць іх, дачок беларукіх на людскі смех не выстаўляюць, не ганьбяць, горла сабе ўзаемна не рэжуць; пацалункамі прайдзісвецкімі згоду між сабою абвясціўшы, навалаю цэлаю дружыннікаў прайдошных на вёскі пасылаюць для разбою і ганьбавання жонак мужычых, апрычнікам уцехі абяцаючы, распусту і разбой па хатах чыняць, як плату за вернасць і адвагу маладзецкую... (...) Але ж — улада ёсць улада на пагібель людцам!"

Такі чалавек і ён сам — Скроўба. Не толькі таму, што бядняк-гаротнік. Галоўнае таму, што — беларус, сын зямлі, аддадзенай на рабаванне. Аднак жа не думае пра супраціўленне. Наадварот. Паўтарае сам сабе: "Калі адолець кагось не маеш сілы, рыхтуйся да сяброўства з такім!" З трывогай паглядаў на ўсемагутных: "Нельга супраць улады ўстаяць, не забіўшы і не ашукаўшы", — паўтараў. І дадаваў у тым жа духу: "Войны сам Бог наслаў, каб была парою лёгкага ўзвышэння для кожнага, каму сумленне — не надта цвёрды прынцып".

У часе разведкі ўзяў Скроўба палоннага, мазаўшаніна. Ведучы таго маладога паляка на допыт да сваіх літоўскіх паноў, думаў: "Як жа я магу не ведаць таго, што ты, мазаўшанін, хоць і на нашай зямлі схоплены, лічыш мяне кудлатым разбойнікам, якога засек бы, як піць даць, нізавошта, і рука б твая не здрыганулася. Падумаўшы, дык чаму ты можаш мець да мяне жаль, калі я такім чынам сваю сям'ю абараняю і іншых у маёй спакутаванай краіне. Я такі, якім трэба каб быў! А й ты ж бароніш сваіх, і я разумею гэта надзвычай добра. Мы ж абодва, ты і я, у становішчы, у якім нам выпала быць, не можам не стаць і да сябе бязлітаснымі. Я не маю аніякага права шкадаваць сябе; загадана мне тут думаць пра ўсіх, пэўна, як і табе. Не па сваёй ахвоце выпраўляемся мы на згубу. Табе бяда. Табе суджана ўжо ва ўласнай крыві выкупаць сваё маладое цела заўтра раніцаю, прамовіўшы малітву страшную на світанні. Не ўнікнуць і мне таго ж самага калі-небудзь, як не заўтра, дык паслязаўтра; ці праз год-другі на службе такой... (...) Так вось і змагаюцца народы між сабою з дапамогаю людцаў сваіх, а братка ты мой — адны, каб жыць, другія — каб нажыцца за кошт суседзяў альбо кагось іншага. І да чаго гэтак свет наш дойдзе?.."

Так вось прамаўляў беларус да паляка. Ёсць у гэтых развагах беларускія горыч і боязь перад польскімі суседзямі; ёсць, аднак жа, і выклік, кінуты ў будучыню — што так быць не павінна. Што інакш магло б быць...

●

"Яшчэ ўвосень 1863 года зарыва Студзеньскага паўстання ў Беларусі ўсё палыхала. Беларусы чакалі вясны, каб, узяўшы самаробную зброю, а таксама косы і сякеры, зноў ісці ваяваць. За волю — за Беларусь без цара і паноў.

Так мела быць".

Гэтымі словамі пачынаецца "Сярэбраны яздок", адна з выбітнейшых навел пра студзеньскае паўстанне, якія давялося мне чытаць. Навела — маніфестацыя беларускай прагі волі, а заадно навела — дакумент і польскіх утокаў, гэтак звычных хоць бы ў Тарлецкага і Канвіцкага. Злучае яна роздум над дзейнасцю палітычнай паліцыі з роздумам над чалавечымі варункамі студзеньскіх паўстанцаў.

Героямі з'яўляюцца функцыянеры паліцыі і падпольшчыкі, а фонам — паліцэйскі кашмар Віленшчыны пад кіраваннем генерал-губернатара Мураўёва — "Вешальніка"; героі навелы — палкоўнік Лосеў, начальнік службы контрразведкі, і Кастусь Каліноўскі, мужыцкі кіраўнік Беларускага паўстання. "Сярэбраны яздок" апавядае пра ловы Лосева на Каліноўскага.

Сакрат Яновіч скончыў працу над навелаю ў 1976 годзе. У той самы час паўстаў "Польскі комплекс" Тадэвуша Канвіцкага. Тады таксама нарадзіліся першыя парасткі дэмакратычнай апазіцыі ў Польшчы...

Палкоўніка Лосева раскрытыкавалі на нарадзе ў генерал-губернатара: не здолеў ліквідаваць новага кіраўнічага асяродку беларускай канспірацыі. Вывучаючы акты і даносы, Лосеў думаў:

"Усё гэта без істотнага значэння. Раскрыць цэнтр, што кіруе паўстаннем у Беларусі, нельга пры дапамозе адной агентуры. У нас няма агентаў, якія здолелі б адыграць ролю партнёра ў кантактах з небяспечнымі інтэлігентамі, не выклікаючы прытым падазрэнняў з іх боку і здабываючы іх давер у такой ступені, калі даходзіць да размоў па шчырасці, адкрывання таямніц... Гэта немагчыма!" — заключыў. Перад вачыма ягонымі паўсталі цьмяныя твары шпікаў і здрадцаў рознага роду з лісінымі ўсмешкамі, якія сэнс жыцця бачылі ў грашах і салодкай разбэшчанасці. Праца была для іх караю, і таму, ідучы на службу ў паліцыю, спадзяваліся найперш на лёгкі хлеб. Лосеў быў настолькі культурным і інтэлігентным чалавекам, што не мог не адчуваць нянавісці да тых людзей, але адначасова разумеў, што на ягонай службе і не можа быць інакш.

"Гэта, безумоўна, сумная з'ява, што высокі царскі трон даводзіцца ахоўваць з дапамогаю людзінаў, нячыстых на руку ды з апаганеным сумленнем, падумаў палкоўнік. Інтэлігенты з вялікай літары, а тым болей інтэлектуалісты ў паліцыі, — на жаль, — з'яўляюцца той рэдкасцю, аб якой чуў, быццам пра нейкі каштоўны мінерал..."

"Расканспіраванне цэнтра з'яўляецца надзвычай складанай і сур'ёзнай аперацыяй. Патрэбны дзеля гэтага не прадажнікі; яны, дарэчы, не заходзяць высока ў падпольнай іерархіі, бо не хапае ім вытрымкі, мацаты волі, якую можа даць толькі бязмежная вера ў ідэю. У расканспіраванні цэнтра, што кіруе паўстаннем, патрэбна здрада! Вялікая здрада! А гэта нешта зусім іншае, чымсьці прадажніцтва. Здраду могуць спарадзіць ідэйныя разыходжанні або раптоўны крах веры ў сэнс ахвяры..."

Лосеў меў у сабе штосьці ад паліцэйскага інтэлектуаліста, таго каштоўнага мінералу — такім яго намаляваў Сакрат Яновіч. Любіў працаваць метадычна і мэтанакіравана, седзячы ў глыбокім фатэлі, з моцнаю гарбатаю. На стале, засланым сукном, раскладваў карткі шпікаў і агентаў. "Калі б не мундзір, — апавядае Яновіч, — можна было б падумаць, што гэты самотны мужчына збіраецца раскладаць пасьянс". Альбо іншы абразок: "Дзесьці манатонна крычаў вязень і чулася грубіянская лаянка тых, што катавалі яго. "Трэба загадаць, каб спынілі прымяняць гэтакія прасцяцкія метады следства", — з пагардай падумаў Лосеў пра цвёрдалобых паліцэйскіх падафіцэраў з быдлячымі характарамі, якім здаецца, што біццём можна дабіцца практычна ўсяго".

Наш палкоўнік быў прыхільнікам метадаў вельмі тонкіх. Сакрат Яновіч параўноўвае між сабою дзве тэхнікі паліцэйскай гаворкі: правінцыйнага паліцмайстра і рафінаванага Лосева. Параўнаем.

Вось беларускі збяднелы шляхціц, Уладак Прончык, звязаны з падполлем, выкліканы да паліцэйскага з Саколкі, які хоча завербаваць яго на агента. Падпольны начальнік забяспечыў яго на дарогу дзвюма праўдамі. Першая з іх гучала: "Паліцыя наогул ведае столькі, колькі ёй хтось паведае альбо данясе". Другая ж была парадаю: "Памятай пра адно і не падпісвай аніякіх паперак. Аніякіх!"

Паліцмайстар частаваў Прончыка папяросамі, крытыкаваў падаткі, хваліў сямейнае жыццё — памятаючы, што яго суразмовец набожны і зусім нядаўна ўзяў шлюб.

"З Прончыкам, — піша Яновіч, — гаварыў чалавек, у якога адна мэта ў жыцці: каго і як акруціць! Пазаўчора снілася яму, што самога цара ўдалося зрабіць сваім "стукачом", даносчыкам. Цар плакаў, цалаваў паліцмайстру боты, прасіў і маліў, каб ён захаваў у таямніцы адзін дробны факт, зусім дробненькі факцік, выяўленне якога асмяшыла б яго, знішчыла б! Паліцмайстар хоць раз выкрычаўся на цара, выліў на яго ўсю сваю жоўць: "Ты думаў, што паліцыя — гэта дурні?! Гультаі?! Няўмекі?! Бачыш, як непрыкметна ты, цар, апынуўся ў нашай кішэні? Запамятай, пыхлівец: няма такога чалавека на свеце, з якога нельга было б зрабіць анучу! Досыць паскрэбсці палітру сумлення кожнага... Гэта так, цар мой!"

Вось такі паліцмайстар. Уявім сабе, ці гэтак Генак Мацюк з гданьскай Службы Бяспекі размаўляе ў сваіх снах з Войцэхам Ярузельскім?

Размаўляючы з Прончыкам, паліцмайстар вельмі разлічваў на яго боязь за маладую жонку. Прончык пагадзіўся з пахвалою сямейнага шчасця, хоць ад падмацавання гарбаты алкаголем адмовіўся.

Паліцмайстар прыступіў да справы:

"— Чулі вы: не так даўно ў Востраве разбэшчаныя шляхцюкі гвалцілі маладзіц і дзяўчат. Кажуць, што гэта паўстанцы... Я не веру ў тое: паўстанцы — высакародныя людзі, яны ідуць на смерць за ідэю, страляюць бандытаў таксама, як і мы, законная ўлада... (...) Мы не дапусцім да разбою ў нашым павеце. Бандыты будуць схоплены і пакараны паводле ўсяе строгасці закона. Лепшыя людзі з народа дапамогуць нам, паліцыі, у выкананні ўскладзеных на нас грамадствам абавязкаў захавання ладу ды бяспечнасці...

Прончык ведаў: у Востраве была спроба згвалтавання дзяўчыны трыма п'янымі шляхцюкамі — з ваяводскага штабнога атрада Духінскага. Цёмная і ганебная для паўстання гісторыя!

— Бандытаў — лавіць і вешаць! — выкрыкнуў Прончык, ажно здзівіўся сам з сябе. Абурэнне далося яму лёгка: сам Духінскі прымусіў шляхцюкоў публічна прасіць прабачэння ў цэлай вёскі! (...)

— Во, во! — з імпэтам падтрымаў Прончыка паліцмайстар. — Трэба выкараніць гэтую ганьбу чалавечага роду!

Астывалі.

— Але тут я вымушаны сказаць вам, пан Прончык, непрыемнае нам, паліцыі, — ён апусціў перад ім вочы, як добры сябар, які просіць зразумець яго. — Мы, як паліцыя, натыкаемся на некаторыя цяжкасці ў выкананні сваіх грамадска карысных абавязкаў. І, скажу вам па шчырасці, нашы жандары яшчэ не дараслі да пастаўленых перад імі задач. Ну, яны — прасцяцкія людзі... — паліцмайстар скрывіўся ў паўслове: пагарджаў жандарамі, іх тупалобасцю. Прончык — шляхціц; бедны, але шляхціц. (...) — Я, ведаеце, шмат думаў, пакуль наважыўся непакоіць вас сваім запрашэннем на гутарку. — І прыклеіўся да яго зрокам: — Я, пан Прончык, моцна прашу вас: дапамажыце нам! Наш дэпартамент і я, асабіста, будзем вельмі ўдзячны вам. Вельмі!

— Ахвотна.

— Непакоіць, ведаеце, бандыцкі выдрык у Востраве, — цэліўся ён у дзесятку. — Народ справядліва абураны... (...) Нам, пан Прончык, патрэбны прозвішчы тых бандытаў і іх адметныя рысы. (...) Рэшту мы хутка высветлім: маем тую перавагу над злачынцамі, што за намі стаіць магутная арганізацыя, якая не надта прыгожа завецца паліцыяй...

Прончык перабіў яго:

— Калі толькі што даведаюся — неадкладна з'яўлюся да вас! (...)

Дамаўляліся.

— Прашу не лічыцца з коштамі. Дзеля справядлівасці не шкада грошай. Мы дадзім іх вам, — паліцмайстар адчыніў шуфлядку і з прыкметнай гатоўлівасцю выклаў адтуль некалькі дзесяцірублёвак. Ягоны голас гучаў перапрашальна: — Патрэбна, пан Прончак, дурная фармальнасць: квітанцыя на гэтую суму, — растлумачыў ён скорагаворкаю, быццам які камбінатар. — Ведаеце, — гэтае "ведаеце" гучала ў яго па-братэрску, — ведаеце, бюракратыя і ў нас. Усюды поўна яе, усюды бухгалтары; сваруся з імі, ведаеце, ды нічога не зробіш... Падпішыце квітанцыю псеўданімам, напрыклад, Шуляк або ў гэтым родзе. Так прынята. — Вочы яго круціліся ад няўпэўненасці.

— Пан паліцмайстар, — Прончык сказаў нясмела, злёгку абражана, — грошы я маю, не хачу рабіць лішніх выдаткаў для паліцыі.

— Усё-такі дзеля якой рацыі вы павінны выдаткоўвацца? — Павучаў: — Мо давядзецца вам спаіць каго з бандытаў або пагутарыць з імі пры гарэлцы, якая, ведаеце, развязвае языкі. П'яныя шчырэюць. На тое патрэбны грошы, іншы раз і немалыя. А нам, паліцыі, гэтыя некалькі дзесяцірублёвак, ведаеце, чыстае глупства.

— Не, не вазьму. Мне сумленне не дазваляе. У мяне сапраўды ёсць грошы.

— Вазьміце, — паліцмайстар нахіліўся. — Грошы гэтыя, так сказаць, нічые: ёсць каса, ёсць і грошы! — ён жартаўліва засмяяўся. (...)

— Прапануючы мне грошы, вы, прабачце мне за шчырасць, абражаеце маё пачуццё абавязку перад Расійскай імперыяй! Маё пачуццё гонару прымушае сказаць вам гэта...

— Вы, мабыць, палічылі маю прапанову за спробу платы? — сказаў паліцмайстар са шляхетным здзіўленнем. — Гэта непаразуменне, да якога нам нельга дапусціцца. Грошы павінны вам толькі дапамагчы.

— Калі будзе патрэба ў іх, я сам папрашу ў вас патрэбную суму, — сказаў Прончык.

— Я не хацеў вас абразіць, пан Прончык, — разгубіўся паліцмайстар. — Лічыў, што прапаную вам дапамогу дзяржавы ў грамадска важнай справе... У нашых добрых намерах... — Дзесяцірублёўкі ён згроб назад у шуфлядку. Думаў: "Не будзе распіскі Прончыка, не будзе і ўлады над ім. Паспрабуем падкінуць яму нейкую чужую рэч, чужую ўласнасць і навінчваць справу аб зладзействе. Папросіць ратунку — тады пастаўлю яму свае ўмовы. Цвёрда пастаўлю, без далікацтва..."

— Пан паліцмайстар, як толькі я даведаюся што наконт тых бандытаў, дык адразу данясу вам, — ветліва і не без спеху развітаўся ён.

— Маю надзею, пан Прончык, што мы добра разумеем адзін другога, — гаварыў паліцмайстар. (...)

Калі застаўся адзін, прамармытаў: "Хітрая сволач!"

*(Працяг на стар. 14—15)*

**АД РЭДАКЦЫІ**

Эсэ вядомага польскага грамадскага і палітычнага дзеяча, пісьменніка-публіцыста, галоўнага рэдактара папулярнай і надзвычай аўтарытэтнай у Польшчы "Газеты выборчэй" Адама Міхніка было прапанавана нашаму штотыднёвіку з ласкі міністра замежных спраў Беларусі У. Сянько, за што выказваем Уладзіміру Лявонавічу шчырую ўдзячнасць. Шкадуем, што па розных прычынах занадта затрымаліся з публікацыяй "Беларускай балады". Нягледзячы на тое, што напісана эсэ паўтара дзесятка гадоў назад, яно і сёння не страціла сваю актуальнасць і значнасць.

Па-сяброўску і з павагаю глядзім на Сахарава, чытаем Салжаніцына і Букоўскага, молімся за расійскіх вязняў. Усялякая наша надзея не пазбаўлена боязі. Ведаем моцныя традыцыі расійскага самадзяржаўя і ведаем, як умела яно апранаць розныя ідэалагічныя ці дзяржаўныя апранахі. Таму памятаем гісторыю бальшавіцкай рэвалюцыі, якая не ахапіла Польшчы, а толькі спарадзіла надзею ў беларускім народзе і яго эліце. Памятаем — і напамінаем нашым братам-беларусам — што менавіта ў бальшавіцкай вязніцы сканаў трыбун беларускіх левых Браніслаў Тарашкевіч. Напамінаем — але ці павінны мы гэта рабіць? Ці не лепш было б часцей самім сабе прыпамінаць, што перш чым Тарашкевіч выправіўся — на сваю пагібель — у Савецкую Расію, ён правёў ладны кавалак жыцця ў вязніцы незалежнай Польшчы? Ён! Перакладчык Міцкевіча на беларускую мову!

Не проста ўсё гэта. Мы, аднак, будзем рабіць сваё. Рабіць усё, каб беларус меў падставы сказаць, што незалежнасць Польшчы і палякаў дае і беларусам глыток волі, а другі глыток — абяцае. Можа быць, ад гэтага будзе залежаць, чаго мы самі будзем варты, як народ...

●

Знаю, доўгі гэта шлях. Адна з гераінь "Сярэбранага ездака", сувязная Каліноўскага, усклікнула ў роспачы: "...Божа, чаму гэта так трэба, каб людзі гінулі за праўду? Чаму гэта столькі бязлітасці ў праўды? Чаму свет належыць да забойцаў? (...) Калі за праўду трэба забіваць, дык ці ёсць яна? Ці не выдумка гэта?.." Пачула ў адказ: "Такая праўда, якія людзі, што ўстанавілі яе!"

Якое ж шчасце маем мы, людзі "Салідарнасці", што ў імя нашай праўды не прымушаны забіваць...

Суразмоўнік сувязной Каліноўскага, паўстанцкі падпольшчык, кружачыся па лясах і балотах, высноўваў сваю думку адносна бачання будучыні высакароднага руху. "Уваччу ажно мройна ад прывіду, што вось выходзяць з лясоў незлічоныя сілы — з пушчы, з пералескаў ды з курганоў векавечных, з усіх бакоў, палісквaючы зброяй, у баявых парадках легіёны свабоды. Ідуць яны, пакуль нябачныя, але ўжо відаць, як водбліск ад іх пранізвае прастору, халодны і мужны, ад якога вочы брыняюць слязьмі радасці, а цела, здранцвелае ад урачыстасці, знерухомела. Глуха — і бляск, толькі бляск, бляск!

**... І станем беларусамі,**
**Вольнасці сынамі!"**

Так мелася быць.

Ці магло гэтак быць? Той паход быў мрояй падпольшчыка. У сапраўднасці быў іншы паход:

"На Лукішскай плошчы паставілі за ноч шыбеніцу. Блакітны ранак над Вільняй. Ля дамініканскай турмы — суровы вайсковы канвой. Натоўп людзей, што ўсё сыходзяцца і сыходзяцца... Часамі нехта закашляе, суха, раз-пораз, быццам падаючы ўмоўны сігнал. Адбудзецца пакаранне смерцю дыктатара паўстання ў беларусі і ў Літве. Завецца ён Кастусь Каліноўскі. Народ маўчыць. Роўна а дзевятай гадзіне расчыніліся турэмныя вароты. Кастусь Каліноўскі, з вайсковай пунктуальнасцю, рушыў у свой апошні шлях. Пад яго крокі, здавалася, ідуць шарэнгі стражы. Боты і вінтоўкі. А на тратуарах людзі скідаюць шапкі з галоў. І плачуць... (...) Кастусь Каліноўскі ўрачыста як бы ўваходзіць у Вільню. Бледны, не мае сілы крыкнуць: "Хай жыве Беларусь! Хай жыве Літва!" Ідзе. З тратуараў слёзна кланяюцца яму ў пояс. Крычаць: "Кастусь! Наш Кастусь!"

Жандары варочаюць мызамі, каб накінуцца. Са звычкі, бо яны сёння на прывязі. Ім сёння нельга!

Адмераны крок. На шыбеніцу — другога па Богу ў покуце мужыцкай Белай Русі. На шыбеніцу яе будучыню, каб больш ніколі не мела яе... І зашчыміць сэрца, забаляць грудзі!"

●

Цяжка чытаць гэтыя радкі без хвалявання. І цяжка нам, палякам, адагнаць падчас гэтага чытання думку аб пакаранні Рамуальда Траўгута і іншых членаў апошняга Народнага Урада. Разам з імі магла павіснуць на шыбеніцы будучыня Польшчы...

Якімі ж слабымі былі яны, Траўгут і Каліноўскі, у параўнанні з палкоўнікамі Лосевымі, якім безнадзейным, пазбаўленым шанцу выдаваў быць іхні канец. Здавалася, што разам з іх смерцю ўжо ўсё прайграна. Польскім і беларускім "людцам" усерасійскі манарх паўтарыў яшчэ раз сваё сакраментальнае: "Ніякіх ілюзій!"

Ды хіба можна перастаць марыць?

Ілюзіі — ведаем гэта аж занадта добра — палітыкі не будуюць. Палітыка, збудаваная на ілюзіях — і пра гэта таксама памятаем — канчаецца звычайна катастрофай. А ўсё ж мары застаюцца нязменнай часткай рэальнай гісторыі людзей і народаў. Мары робяць людзей лепшымі, шляхетнейшымі. Мары аб годнасці вучаць годнасці, мары аб волі — робяць вольным.

Дзеля гэтага і патрэбны мары. Бо што ж можа пераможаным ахвяраваць людская памяць? Бо як інакш аддаць належнае тым, што не здрадзілі, тым, што не паддаліся шантажам паліцмайстраў, допытам жандараў, угаворам Лосева? Што ж можа пісьменнік — польскі ці беларускі — над той клятваю Канвіцкага, над тымі словамі Жэромскага аб "літаратуры, якая ніколі не здрадзіць", над той памятнай сцэнай Сакрата Яновіча аб пакаранні смерцю кіраўніка беларускага паўстання? Пісьменнік не можа аберагчы народ ад ахвяр, але сваім словам ён мае ўладу сказаць, што тыя ахвяры не былі марныя, што яны далі сілу людзям і народам устаць з каленяў, выпрастацца. Каб выпрастацца, трэба марыць...

Мары прыносіць у дарунак літаратура. Тадэвуш Канвіцкі падараваў палякам у выбітных вобразах Траўгута і Мінейкі мары аб шляхетнасці і праўдзе; Сакрат Яновіч, ахвяруючы беларусам — і нам, палякам! — вобраз гераічнай смерці Кастуся Каліноўскага, — пачаў працу над адбудовай эпасу беларускай вызваленчай традыцыі. Насуперак тым, што нам паўтараюць: "Ніякіх ілюзій!"

Ці станецца Кастусь Каліноўскі знакам і сімвалам адраджэння беларускай дэмакратыі? Ці такія намеры кіравалі пяром Сакрата Яновіча? Адказаць на гэтыя пытанні не магу. Пісьменнік часта гаворыць больш, чым мяркуе. Аднак хай мне будзе дазволена дапусціць, што беларускі пісьменнік кіраваўся наступным перакананнем: Траўгут і Каліноўскі, гэтыя дзве постаці і гэтыя два пакаранні смерцю — сведчанне адзінства гістарычнага лёсу палякаў і беларусаў. Калі кроў тых пакутнікаў абодвух народаў сталася зернем для будучыні, дык заўсёды варта нагадваць сабе, што сеяць можна разам...

●

Януш Тазбір колькі гадоў назад апублікаваў знакамітае эсэ аб гістарычнай навеле як аб крыніцы ведаў айчыннай гісторыі. Можна было б гэта ўдакладніць: кожны роздум над гісторыяй, што выходзіць за межы чыста прафесійных спрэчак, датычыць гэтак жа гісторыі, як і сучаснасці. А ставячы пытанні мінуўшчыны, надзвычай балючыя для сучаснасці, апыньваемся ў сучасных справах і канфліктах.

Давай зірнём, Конрадзе, на людзей 1863 года праз прызму ўласнага досведу. Пашукаем у іхніх біяграфіях хоць бы накіды ўласных лёсаў, прадвызначэнняў. Не ведаем, што нас чакае. Паўтараем, як паўтараў сабе Кастусь Каліноўскі, што "на нас працуе час", што сёння робіць "Салідарнасць" — "арганізоўвацца, чакаючы". Верым — як і тады верылі, — што кан'юнктура мінецца, што ў спрэчцы сілы праўды з праўдаю сілы пераможа першая. Аднак зусім не ўпэўнены, што менавіта гэтак і будзе. Не ведаем, ці не наша прызначэнне — уласная дарога ўкленчваць. Не натхняемся вобразамі пераможцаў. Выстае нам усведамлення, што з'яўляемся — і хочам быць — на добрым баку, на баку праўды. Хоць бы той "добры бок" доўга яшчэ мог супрацьстаяць у канфрантацыі з хлуснёй і перамагаць...

Але хопіць пра гэта. Знаем, аднак, Конрадзе, што ў выніку перамогі "Салідарнасці" не мы займем месца ў ложы трыумфатараў, не нашы выпнутыя грудзі аздобяць узнагароды. Можа, зноў будзем турботлівай згадкай часу, у які "Салідарнасць" магла падараваць толькі прысуды і адпачынак у турэмных камерах? Можа, застанецца нам горыч адвергнутых?

Знаем гэты фільм. Таму што добра ведаем, што Каліноўскаму, кіраўніку беларускага падполля, давялося ў канцы не найгорш. Лепш загінуць на шыбеніцы ад рук ворага, чым — як першы прэзідэнт незалежнай Польшчы Габрыэль Нарутовіч — ад рук тых "патрыётаў", што "Крыж мелі на грудзях, а браўнінг у кішэні, з Богам былі ў саюзе, а з забойцамі ў змове". Бадай што лепш, чымператварыцца з Каліноўскага ў Лосева, са змаганца за волю — у паліцэйскага апрычніка. Зрэшты, Конрадзе, нам і гэты фільм знаёмы...

Ці ж меў тады Лосеў рацыю, падазраючы такіх, як мы, у "ненармальнай шляхетнасці"?

Пэўна, няма нічога больш фальшывага. З'яўляемся — і хочам быць — цалкам нармальнымі. Ні аб чым так моцна не сумуем, як аб нармальнасці, бо анічога гэтак моцна не баімся, як нармальнай капітуляцыі перад сваёй слабасцю і сваім страхам. Добра ведаем, што калі не адолеем сваёй боязі, яна — наша боязь — запануе над намі.

Тады адразу хуценька зробімся "палітычнмі рэалістамі". Упэўнімся, што "Салідарнасць" складаецца з хэўры авантурыстаў, а "Касцюшка быў вар'ят, бунтаваў пралетарыят..." Зробімся страшэнна мудрымі і глыбока апалітычнымі, будзем старанна ўзважваць словы і ўхіляцца ад рамантычных парываў сэрца.

Будзем ездзіць на Захад, каб тлумачыць, што "Салідарнасць" ужо не сапраўдная. Будзем удзельнічаць у навуковых дыскусіях аб міжнародным супрацоўніцтве, інтарэсах дзяржавы і дыялога Усход—Захад. І толькі той страх, што знянацку ахопіць і спаралізуе нашы пачуцці, калі выпадкова спаткаем сышчыка, нагадае нам, што можна жыць інакш... Але тут жа супакоімся, убачыўшы, што сышчык віжуе не за намі, што цікавіць яго нейкі чужы, маладзенькі хлапец з доўгімі валасамі і пляцаком — пэўна, з нелегальнымі выданнямі. Тады ўздыхнём з палёгкаю і будзем працягваць сур'ёзную размову.

Так магло быць. Так магло б быць. Так, аднак, — верым — не будзе. Застанемся такімі, якія ёсць.

Чаму? Можа, таму, што любім гэтую вернасць прайграным справам?

Ці не так, Конрадзе?

*Гданьск, следчы арышт*
*Вясна 1985*
*Пераклад з польскай*

# НОРМА — ВЕРНАСЦЬ КАРАНЯМ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5, 12)*

Лічу, што Вярхоўны Савет абавязаны прыняць Закон аб абароне нацыянальных духоўных каштоўнасцяў, у тым ліку і мовы, пацвердзіўшы гарантыі яе паўнакроўнага, нязмушанага і вечнага развіцця. Але пакуль што ў гэтых пытаннях пазіцыя вышэйшага заканадаўчага органа і асабіста Ваша, як Старшыні, досыць невыразная, нейкая кволая, анемічная. Калі ж паглядзець на выступленні асобных дэпутатаў, у прыватнасці Вашага намесніка Ю. Малумава, дык нават падкрэслена выразная сваёй антыбеларускасцю. Вашы ж запэўніванні, што будзеце карыстацца роднай мовай падчас абмеркавання праблем культуры, з гледзішча дзяржаўнага проста жалю вартыя. Ідуць яны ад старога бээсэсэраўскага часу, калі часамі для аздобы дазвалялася і нават заахвочвалася, каб хтосьці з інтэлігенцыі сказаў некалькі слоў па-беларуску. Ды ў гэтым бачыцца не дзяржаўніцкі падыход, а праява выхаванай у нас стагоддзямі паднявольнага існавання рабскай псіхалогіі і філасофіі...

На гэтым мушу закругляцца, бо праблем для гаворкі многа, а часу на чытанне ў Вас, пры Вашых клопатах і занятасці — вобмаль.

На заканчэнне — некалькі слоў пра дзейнасць Згуртавання наваградцаў свету, якое я, як Старшыня Рады, прадстаўляю. Калі па шчырасці, дык істотнай працы, якая б уплывала на тое, што робіцца на Навагрaдчыне, а тым больш у Беларусі — пакуль што няма. Прычыны?

Пасля Устаноўчага сходу і рэгістрацыі ў Мінюсце меркавалася, што пабуджальным да актыўнай грамадскай дзейнасці момантам будзе Першы з'езд наваградцаў свету, які аб'яднае расцярушаных па свеце землякоў і актывізуе іх энергію на дапамогу роднаму краю ў гэты нялёгкі час. З'езд меркавалася спалучыць са святкаваннем 950-годдзя з дня заснавання старажытнага Новагародка, колішняй сталіцы Вялікага княства Літоўскага. Ініцыятарам урачыстасцяў якраз і выступіла Згуртаванне, бо, уласна кажучы, юбілей прыпадаў на папярэдні год, але так і не быў нікім заўважаны і адзначаны. Мы спадзяваліся, што ўгодкі Першасталіцы стануць значнай падзеяй у жыцці ўсёй Беларусі. Але глыбока памыляліся, бо ідэя стала ўсутыч з бюракратычным валаводжаннем, у выніку чаго дата з'езда пераносілася тройчы, перайшоўшы з лета на восень. Гэта не магло не адпрэчыць землякоў з далёкага і блізкага замежжа, ахвота якіх паўдзельнічаць у важным мерапрыемстве ператварылася ў абыякавасць і няўцям, чаму і дзеля чаго адбываюцца гэтыя змены і пераносы. Ад канцэртнай праграмы, якая рыхтавалася сіламі універсітэта культуры пад кіраўніцтвам самой рэктаркі Я. Грыгаровіч і мела на ўвазе адлюстраваць магутнасць колішняй беларускай дзяржавы, рух народа праз вякі, раённыя ўлады адмовіліся, замяніўшы гэта звычайнымі выступамі выпадковых фальклорных народных калектываў...

Юбілей адсвяткавалі, але настолькі ўсё, за выключэннем хіба што конных скачак, было тут ардынарна, зафармалізавана і нецікава, што падзея не толькі не мела рэзанансу ў Беларусі, але, пэўна, нікога не абудзіла і не ўскалыхнула і ў самім раёне. Усё прайшло, карацей кажучы, ціха, мірна, стандартна.

Пасля гэтага мы правялі некалькі лакальных мерапрыемстваў, але яны таксама не мелі значнага грамадскага рэзанансу. І таму ўсё больш наспявала патрэба сабрацца разам і грунтоўна пагаварыць, як і чым мы можам займацца, а калі не — дык самараспусціцца. Многія прапаноўвалі на гэтым пасяджэнні па-зямляцку шчыра выказацца наконт Вашай, як Старшыні Вярхоўнага Савета, пазіцыі. Адзінае, у чым была затрымка, гэта з прысутнасцю на пасяджэнні Старшыні Управы Тамары Вяршыцкай, якая павінна арганізоўваць дзейнасць Згуртавання ўласна на Наваградчыне. Аднак па вясне ёй па нейкіх сваіх суродзічных справах спатрэбілася паехаць у Ізраіль. А потым, па вяртанні, — адна за адной адгаворкі: то тая прычына, то гэтая. І мне стала зразумела: усё тая ж, як і падчас святкавання юбілею Наваградка, бюракратычная валавода — выпрабаваны, надзейны сродак загубіць усякую жывую справу. Вырашыў, пакуль тое будзе, напісаць Вам ліст проста ад сябе, выказаць у ім тое, што хвалюе асабіста мяне. Магчыма, на Радзе мае думкі будуць аспрэчаны і ў аснову Зварота лягуць іншыя меркаванні, з чым я, шануючы калектыў, пагаджуся. Але гэтыя старонкі, паверце, пісаліся шчырым сэрцам, з жаданнем бачыць свайго земляка не проста на высокай пасадзе, а значнай дзяржаўнай асобай, кім, бясспрэчна, сталі і застануцца ў гісторыі Вашы папярэднікі — Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб. Прыход на старшынёўства апошняга для мяне, як і для тысячаў свядомых беларусаў, быў крыху нечаканым і выклікаў апасенні, што ён, колішні генерал міліцыі, далёкі, здавалася, ад праблем духоўнага жыцця народа, не здолее ўзняцца да разумення сваёй ролі як дзяржаўнага дзеяча высокага абсягу. Але, на шчасце, у гэтым выпадку мы ў сваіх заўчасных прагнозах глыбока памыліліся і сталі сведкамі таго, як спакваля Мечыслаў Іванавіч набіраў належную вышыню ў разуменні дзяржаўных патрэб Беларусі, прасякаўся заклапочанасцю ўсім, што здабыў, мае і павінен захаваць для будучыні наш старажытны народ.

Вы, шаноўны Сямён Георгіевіч, пакінулі ў землякоў добрую пра сябе памяць, прапрацаваўшы каля двух дзесяткаў гадоў старшынёй калгаса ў родных мясцінах. Цяперашняя Ваша праца — куды больш складаная і адказная. Умовы, у якіх дзейнічае Вярхоўны Савет, няпростыя, асабліва з улікам характару Прэзідэнта, які, не сакрэт, хацеў стаць адзіным самаўпраўным Уладаром Беларусі, падмяніўшы сабой вышэйшую заканадаўчую і судовую ўлады. Да чаго можа прывесці такое нічым не абмежаванае і непрадказальнае самаўладдзе — здагадацца няцяжка, бо і сёння Беларусь задыхаецца ў цяжкім эканамічным і духоўным крызісе. Тым больш адказнай становіцца перад будучыняй Ваша роля, роля Вярхоўнага Савета. Хай у гэтых экстрэмальных умовах прыкладам і маральным апірышчам для Вас будзе дзейнасць Канстытуцыйнага Суда, ягонага Старшыні, шаноўнага Валерыя Гур'евіча Ціхіні, які паказвае ўзор высокага прафесіяналізму, маральнай трываласці і нязломна стаіць на варце Асноўнага закона — Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Галоўнае цяпер: захаваць для нашчадкаў незалежную дзяржаву, а народ — жыццядзейным, духоўна свабодным і разняволеным, здольным вырашаць свой лёс і адказнасць перад будучыняй. А гэта немагчыма без свабоды і дэмакратыі. Як мне здаецца, надзвычай актуальна гучаць сёння, сказаныя больш чатырохсот гадоў назад словы вялікага дзяржаўнага мужа Беларусі, канцлера Льва Сапегі, прамоўленыя ім у "Звароце да люду паспалітага ўсіх станаў Вялікага княства Літоўскага":

"Бачылі тое ўсіх стагоддзяў людзі мудрыя, што ў кожнай дзяржаве чалавеку пачціваму не мае быць нічога даражэйшага за вольнасць. А няволяй — так мае гідзіцца ёю, што не толькі скарбамі, але і смерцю яе ад сябе адганяць павінен. А таму людзі пачцівыя не толькі маетнасці, але і горлаў сваіх супроць кожнага непрыяцеля прыносіць не шкадуюць, каб акрутнаму іх панаванню не падупасці, а вольнасці сваёй будучы зрабаваныя, паводле волі і намыслу іх як нявольнікі не мусілі жыць. А тым болей занадта было б, калі б чалавек ад няволі староннягa непрыяцеля вольны быў, а свойскага непрыяцеля над сабою цярпець мусіў".

Дык будзьце, шаноўныя дэпутаты, вольнымі і нязломнымі, не дайце паставіць свой народ на калені!

**Веру, братцы, людзьмі станем,**
**Хутка скончым мы свой сон;**
**На свет Божы шырэй глянем,**
**Век напіша нам закон...**

Так пісала на пачатку нашага стагоддзя выдатная паэтка — патрыётка Беларусі Алаіза Пашкевіч (Цётка).

**Відаць, пракляцця знак ляжыць**
**На нас адроду, і таму**
**Так цяжка шлях нам церабіць**
**Да Беларусі.**

**Равуць вятры, грымяць грамы,**
**Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,**
**І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы**
**Да Беларусі!..**

*(Ніл Гілевіч)*

Жадаю Вам, шаноўны Сямён Георгіевіч, быць годным здзейсненага лепшымі людзьмі роднай Наваградчыны, знайсці ў душы мацнату і гарт, каб у гэты нялёгкі для Беларусі час супрацьстаяць здрадзе, хлусні і крууцельству!

**З павагай і пажаданнем усяго найлепшага —Яўген ЛЕЦКА.**

Ян ЗБАЖЫНА

# ЗОРКА ВІФЛІЕМА

Афарызмы часта нагадваюць атавізмы вядомага.

●

Богу — кесарава, кесару — божае: парадокс, які сам сябе вычарпаў.

●

Бясконцасць сусвету і часу абумоўлівае бясконцасць кожнае падзеі ў бясконцым яе паўтарэнні.

●

Гармонія думкі — у яе нявыказанасці.

●

Гісторыя — гэта састарэлая дзева ў пошуках апошняга шанцу.

●

Гогаль аддзячыў Расіі — з яе ніхто так яшчэ не кпіў.

●

Добры афарызм варты пэўнай філасофіі.

●

Дрэва, якое не дае плоду, ссякаюць. З гэтым ніколі не пагодзяцца зялёныя.

●

Жанчыне ўласціва шчыра кахаць, але быць шчыраю?..

●

Жанчыны вельмі хутка выклікаюць аскому. Не абрыдваюць толькі мроі аб іх.

●

Зерне, кінутае фарысеямі, прарастае і на камені.

●

Ілюзорная мара маленькай нацыі — бачыць Збавіцеля ў нацыянальным строі.

●

Ісціна, агульная для ўсіх, шкодная.

●

Кожны камусьці непатрэбны.

●

Крывавы ўсход і захад — след Чырвонага Сонейка.

●

Малады нябожчык смерць упрыгожвае.

●

Мяняючы ідэі, знойдзеце скарб.

●

"Міф аб Сізіфе" — абсурдная спроба ўсвядоміць эмацыянальнае.

●

Нават пошук сэнсу жыцця прыносіць асалоду. Пошук — яго вера.

●

Найгоршае зло — растлумачваць дабро.

●

Найлепшы настаўнік — плынь вады.

●

Не глядзі туды, дзе смутак, — там пахавалі Хрыста, не глядзі туды, дзе весялосць, — там Яго ўкрыжоўваюць.

●

Не захапляйся Гегелем — зрабі яго толькі настольным.

●

Пакуты набліжаюць да мудрасці, ісціну знаходзіць радасць.

●

Памылка Сакрата: філасоф — не вынік дрэннай жонкі, апошняя — вынік філасофіі.

●

Разбэшчанасць і аскетызм



— дзеці інтэлекту.

●

Сэнс кожнае думкі — кропка, шматкроп'е — бессэнсоўнасць.

●

Толькі ісціна сама сабе адмаўляе.

●

У адрозненне ад мужчын здрада жанчыны адначасова з'яўляецца і прадажніцтвам.

●

"Увесь свет — тэатр", але чый — Шэкспіра ці Нерона?

●

Умова існавання супрацьлегласці — яе супрацьлегласць.

●

У стане весялосці чытай Еклезіяст, у смутку — апостала Паўла.

●

Фром распрануў душу чалавека — і, аголеная, яна засаромелася.

●

Фрэйд сведчыў ісціну, якая памірае разам з чалавекам, ён — забойца чалавецтва.

●

Хто доўга ўглядаецца ў зорнае неба, запаліць на ім сваю Віфліемскую зорку.

●

Цвярозасць — маці мяшчанства, мастацтва і навуку нарадзілі п'яная блудніца з галодным аскетам.

●

Цень чалавецтва знікае там, дзе пачынаецца змрок багоў.

●

Цынізм — рэалізм без пачуццяў.

●

Шапенгаўэр шукаў абсурд філасофіі, астатнія — філасафічнасць абсурду.

●

Шукаючы святое, знайдзі яго і ў грэшным.

●

Шчырасць ператварае грамадскае ў забабоны.

●

Як вынік шкадавання Дастаеўскім зняважаных і прыгнечаных — наданне апошнім уласцівасці думаць.

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Прэзідэнт пазваў да сябе брыгадзіра: "Вось вам, генерал, меч для харакіры". Той падыхаў на лязо, паглядзеў, ці спраўнае, і адрэзаў: "Вам назло не падам у адстаўку!" Нескароны генерал недзе верхаводзіць, самагубны рытуал у нас не праходзіць.

●

Шэрыя салдацкія помнікі на кладзішчы? А ты прыглядзіся. Калі сонца кідае на іх свае промні, яны залацістыя, калі вецер гуляе ў кронах, — зялёныя, а вечар абрынецца, — сінія. І не самотныя старыя салдацкія помнікі — жывуць сваім жыццём, апекаванія прыродай, частка яе і яе клопат. А што аднапалчане пазабывалі, дык вунь яны, жывыя, мітынгуюць непадалёку.

●

Ізноў сцяной дружыны МУСа, ізноў узрушаныя зборышчы. І маладыя беларусы па той і гэты бок — як ворагі. З адной гурбы ў тых, трыццатых, былі ўжо "шкоднікі" і каты...

●

Любіў чалавецтва, але не суседзяў, жывёльны свет, але не кошак і сабак, маладое пакаленне, але не пляменнікаў і пляменніц, і сябе самога — без ніякіх выключэнняў.

●

"Разменьваецца трохпакаёўка сталінскай планіроўкі на камуналку і хрушчоўку"... Пройдзеныя этапы ў назвах нашых кватэр. Грыміць цяпер званкай меддзю: "Разменьваюцца катэджы".

●

Прачнуўся ад голасу бабыягі: "А вы, мужчына, чаму без чаргі?" Ужо калі зусім ачуняў, нехта сказаў: "Ён, быццам, стаяў".

●

Белая варона абвясціла альбінізм адзіна правільным рэвалюцыйным вучэннем, якое пераўтворыць свет. "Ну і як у вас з асваеннем?" — спыталі зачынальніцу новай эры. "Цудоўна, асноўныя масы ўжо шэрыя". "Няпраўда, — адазваўся крумкач у скверы, — яны і раней былі шэрыя".

●

Слаўлю цяжарную жанчыну, што ў век кантрацэптываў і вакуумных абортаў рашылася на свой мацярынскі подзвіг. Колькі кабет стрэў сёння раніцою, і ці не кожная выгульвала свайго пудзеля, спаніэля, пойнтэра, тойтэр'ера. Толькі адна яна горда ішла з высока ўзнятай галавою, урачыста несучы перад сабой свой жывот, сама сабе ўступаючы дарогу. Выкладчыкі сцэнічных дысцыплін, запрасіце яе ў свае аўдыторыі, хай навучэнцы ўбачаць, як магла хадзіць па зямлі сама Багародзіца.

●

Драматург усё навакольнае жыццё ўяўляў сабе як вялікую п'есу. Са спектаклем, праўда, не атрымлівалася. Героям часта граюць другарадныя акцёры, сумбурна праходзяць масавыя сцэны, таленавітых выканаўцаў бачыш хіба што ў эпізодах. "Няўжо ў п'есы і спектакля адзін творца, — здзіўляўся драматург, — п'еса ж абяцала быць такой цікавай?"

●

— Па просьбе працоўных, — кажуць на тэлебачанні, калі паказваюць нікому не цікавыя стужкі...

— Народу падабаецца, — заўважыў Іосіф Вісарыёнавіч, калі Ліон Фейхтвангер здзівіўся, чаму на выстаўцы старажытнага мастацтва вісіць партрэт "вялікага правадыра"...

— Узнагароды будуць, — запэўніў Леанід Ільіч, калі яму нагадалі, што бюсты пры жыцці ставяцца толькі двойчы героям...

А што скажуць магілёўскія падхалімы, якія рыхтуюць прэзідэнту помнік у яго на радзіме: "па просьбе працоўных", "народу падабаецца" ці "ўзнагароды будуць"?

Павел САКОВІЧ

# ЭПІГРАМЫ, ЯК РЭКЛАМЫ

### САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ

**Сябры мае! Цудоўны наш Саюз:**
**Не абанкруціўся і не распаўся,**
**І хоць вісіць на ім праблемаў груз,**
**Ён не змарнеў — ушыркі шчэ раздаўся.**

**Саюз расце, а — мова як?**
**Ва ўмовах чахне неспрыяльных,**
**А з ёю чахне сам мастак,**
**Бо не пражыць яму ніяк:**
**Ні творча, ні матэрыяльна.**

**Павінны слова мы цаніць,**
**А вось да справы ці гатовы?**
**Нам сёння трэба ўсё зрабіць,**
**Каб Слова роднае абараніць,**
**А не, прабачце, бараніцца словам!**

### ЧАСОПІС "АЛЕСЯ"

*(былая "Работніца і сялянка")*

**Ён па жыцці чытачак вёў,**
**Даваў ім шчодрыя парады:**
**Як пасвіць і даіць кароў,**
**Калі і чым засеяць грады.**

**Рабоце як аддацца ўсёй**
**І біць сусветныя рэкорды,**
**А муж паб'е з-за працы той —**
**Як адвучыць ад гэтай "моды".**

**Яшчэ як выбраць жаніхоў,**
**Чытачкам вызначаў праграму.**
**Пад манастыр іх не падвёў —**
**Дзяўчаты выскачылі замуж!**

**Ён сэрцы ўсіх заваяваў:**
**Жанчын, ды і мужчын таксама...**
**Яго б наўрад слабым назваў, —**
**Хоць на чале выдання — дама, —**
**І крытык, нават злосны самы!**

### ГАЗЕТА "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

**"Чырвонку" мілую маю**
**Люблю дагэтуль і шаную.**
**Я маладосць аддаў сваю**
**Ёй на карысць — і не шкадую!**

**Я з ёю лёс звязаць хацеў,**
**Каб толькі той хапіла сілы...**
**Але яе, як паблажэў,**
**Дык маладзейшыя адбілі.**

### ДЗЯРЖАЎНЫ АНСАМБЛЬ "ПЕСНЯРЫ"

**"Ён жнец, шавец і на дудзе ігрэц", —**
**Ну, пра яго ўсё слова ў слова!**
**Бадай, стварыў яго Тварэц,**
**бо сам стварэць усё гатовы.**

**Касцюмы ўмее шыць, насіць —**
**Ён модзе аддае даніну**
**А з Ясем як пачне касіць —**
**Запахне ў зале канюшынай.**

**Напіша ён і песню сам,**
**І праспяваць з душой сумее.**
**Не па сабе аж салаўям,**
**Шпакі ад зайздрасці — нямеюць.**

**Пераканацца можа зноў,**
**Хто іх паслухаць пажадае:**
**Праз неўміручых "Песняроў"**
**Душа народная спявае!**

### ЧАСОПІС "ВЯСЁЛКА"

**Малы, стары — увесь народ —**
**Жыве у радасным здзіўленні:**
**"Вясёлка" ззяе круглы год —**
**Неверагоднае здарэнне!**

**У свет "Вясёлкі" — новы цуд —**
**Як з галавою акунуся,**
**Памаладзею раптам тут**
**І нат зусім малым зраблюся!**

### ЧАСОПІС "ВОЖЫК"

**Смяшлівы гэтакі, крытычны,**
**Дабра, аднак, усім ён зыча:**
**То дасць укол прафілактычны,**
**А хто да жартаў больш прывычны —**
**Іголкай злёгку паказыча.**

### БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ З ЗАМЕЖНЫМІ КРАІНАМІ

**Я заклінаю ўсіх дружыць,**
**І лозунг мой надзённы самы:**
**Ні дня без дружбы не пражыць,**
**Без таварыства дружнага — таксама.**

**Я заклікаю зноў і зноў:**
**Краіны, людзі — ўсе дружыце,**
**І ў партыю сусветную сяброў**
**Усіх, Ваніцкі, запішыце!**

### ГАЗЕТА "ИМЯ"

**Яна на тысячах імёнаў**
**Сабе імя зрабіць змагла,**
**І нейкі таўстасум-гулёна**
**Гатовы ёй аддаць мільёны —**
**Увагай каб не абышла!**

### ЧАСОПІС "БЯРОЗКА"

**Яна як маці дзецям нашым —**
**Навучыць і паесці дасць:**
**Бярозавай карыснай кашы**
**І соку — кашу запіваць!q**



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*, **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4428
Нумар падпісаны 25.7.1996 г.
Заказ 4131/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12